# Нефармальная адукацыя дарослых у беларускім трэцім сектары:
## асаблівасці развіцця

**Улад Вялічка**



**Уладзіслаў Вялічка** — выканаўчы дырэктар грамадскага аб'яднання "Адукацыйны цэнтар «ПОСТ»" (г. Мінск). У якасці трэнера нефармальнай адукацыі на працягу 1995-2004 гг. правёў больш за 50 трэнінгаў і семінараў для розных мэтавых груп. У 2001-2003 гг. выконваў ролю дырэктара беларуска-швецкага праекта "Школа трэнераў", накіраванага на павышэнне кваліфікацыі трэнераў беларускіх грамадскіх арганізацый. З'яўляецца адным з аўтараў кніжак "Інавацыйныя метады навучання ў грамадзянскай адукацыі" (1999), "Міжкультурная адукацыя ў школе" (2001), "Прафесійная кухня трэнера: з вопыту нефармальнай адукацыі ў трэцім сектары" (2003).



*Вось ужо болей за 12 год незалежная Беларусь існуе на мапах Еўропы. Цяжка пералічыць, колькі новага, сучаснага, нязвыклага, раней невядомага прыйшло ў наша жыццё за гэты час. Не засталіся па-за працэсамі зменаў і такія сферы, як адукацыя і грамадская дзейнасць. І менавіта ў выніку сур'ёзных палітычных, эканамічных і сацыяльных зменаў, якія адбыліся на прасторы былога Савецкага Саюза, сёння гэтыя дзве сферы сустрэліся і актыўна ўзаемадзейнічаюць паміж сабой у межах так званай нефамальнай адукацыі дарослых, якая ўзнікла і працягвае развівацца, дзякуючы ў тым ліку і намаганням беларускіх грамадскіх арганізацый.*

*Упершыню за доўгі час у нашым грамадстве з'явіліся ўмовы для рэальнага выкарыстання адукацыі ў якасці інструмента дэмакратычнага развіцця. Так атрымалася, што беларускі трэці сектар* сам, пачаўшы сваё развіццё амаль што з нулявой кропкі адліку, паказаў сябе найбольш мабільным і актыўным у гэтым працэсе. Грамадскія арганізацыі не пабаяліся вучыцца новаму, аналізаваць досвед іншых краін, інтэрпрэтаваць даўно вядомае, адмаўляцца ад рудзіментаў дзеля больш перспектыўнага, у выніку чаго выйгралі ўсе.*

*У гэтым артыкуле робіцца спроба зрабіць кароткі агляд развіцця нефармальнай адукацыі менавіта ў межах беларускага трэцяга сектара, а таксама прааналізаваць сучасную сітуацыю ў гэтай сферы.*

Нягледзячы на наяўнасць у часы СССР адладжанай і разгорнутай, а разам з тым у значнай ступені фармалізаванай і ідэалагізаванай сістэмы адукацыйнай і асветніцкай працы з насельніцтвам (па-за рамкамі сярэдняй і вышэйшай адукацыі), сёння нефармальная адукацыя дарослых у Беларусі ўсё яшчэ знаходзіцца на этапе станаўлення.

Напачатку 90-х гадоў XX стагоддзя, адначасова з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі, адукацыя дарослых узяла для сябе новую кропку адліку і, не маючы агульнапрынятага плана развіцця, пачала хаатычны, няўзгоднены, а часам даволі балючы працэс росту. У яе станаўленні прынялі ўдзел розныя прадстаўнікі дзяржаўнага, камерцыйнага і грамадскага сектара. Адпаведна, шляхі развіцця такой шырокай сферы, як нефармальная адукацыя, значна вар'яваліся ў залежнасці ад мэтаў і функцый таго ці іншага сектара: дапаўненне традыцыйнай адукацыі, ліквідацыя яе прабе-

***** Трэці сектар — тэрмін, якім часта карыстаюцца ў якасці сіноніма сукупнасці існуючых у краіне грамадскіх аб'яднанняў, рухаў, ініцыятываў і інш, якія разам з дзяржаўнымі арганізацыямі (першы сектар) і прыватнымі камерцыйнымі арганізацыямі (другі сектар) складаюць асноўную структуру пабудовы грамадства.

лаў, задавальненне ўзнікшага новага попыту з мэтай эфектыўнай канкурэнцыі на рынке працы і да т.п.

У гэтым артыкуле не ставіцца задача прааналізаваць нефармальную адукацыю ў Беларусі ў цэлым, хутчэй, гаворка пойдзе пра тую яго частку, што рэалізуецца ў рамках і сіламі беларускіх грамадскіх арганізацый на працягу апошніх дзесяці-пятнаццаці гадоў.

Перш чым пачынаць размову на тэму нефармальнай адукацыі, варта ўдакладніць само паняцце. Інакш мы рызыкуем гаварыць пра рознае і не дасягнуць узаемаразумення. Трэба прызнаць, што тэрмін "нефармальная адукацыя дарослых" — надзвычай ёмісты, і разам з тым ён пакуль не атрымаў дакладнага вызначэння, а таму існуе незлічоная колькасць яго трактовак.

Пад нефармальнай адукацыяй дарослых часта разумеецца стварэнне ўмоваў і магчымасцей для атрымання чалавекам неабходнага яму досведу з мэтай павышэння ўзроўню яго сацыяльнай, прафесійнай і грамадзянскай кампетэнтнасці.

Згодна з іншым пунктам гледжання, нефармальная адукацыя дарослых — гэта адукацыйная сістэма, якая дапамагае пашырэнню кругагляду людзей, умацаванню іх здольнасці да канкурэнцыі ў сучаснай эканоміцы, забяспечвае магчымасць удзелу ў кіраванні і змяненне становішча ў грамадстве.[1]

У адпаведнасці з такім разуменнем выдзяляюцца наступныя асноўныя функцыі нефармальнай адукацыі дарослых:

- **Сацыяльная функцыя** — прадастаўленне людзям роўных сацыяльных магчымасцей для ўласнага развіцця.
- **Эканамічная функцыя** — пастаяннае паляпшэнне прафесійнай і індывідуальнай кампетэнтнасці чалавека, павышэнне якасці яго дзейнасці і эканамічнай мабільнасці, павелічэнне яго шанцаў на рынке працы.
- **Культурная функцыя** — перадача ўяўленняў пра свет і грамадства, фармаванне эстэтычных і маральных каштоўнасцей.
- **Палітычная функцыя** — садзейнічанне развіццю плюралізму ідэй і ўдзелу насельніцтва ў працэсе прыняцця рашэнняў, дапамога ў станаўленні дэмакратычных інстытутаў улады і развіццё палітычнай культуры.[2]

Неабходна таксама адзначыць, што само слова "нефармальная" ў вызначэнні дадзенай адукацыйнай сферы паказвае на пэўнае супрацьпастаўленне яе традыцыйнай адукацыі (сярэдняя, вышэйшая школа, прафесійна-тэхнічнае навучанне), якая рэалізуецца ў межах "фармальнай" адукацыйнай сістэмы. Разам з тым нефармальная адукацыя з'яўляецца не столькі альтэрнатывай, колькі дапаўненнем і працягам дзеючых адукацыйных сістэм.

У літаратуры можна таксама сустрэць тэрмін "грамадзянская адукацыя", які вельмі часта ўжываецца ў асяроддзі беларускіх грамадскіх арганізацый. У сваім шырокім значэнні (больш вузка грамадзянская адукацыя разумеецца як навучанне, мэта якога — сфармаваць веды і ўяўленні аб палітычным ладзе дзяржавы, спектры палітычных партый, удзеле грамадзянаў у прыняцці палітычна значных рашэнняў і да т.п.) гэты тэрмін з'яўляецца сінанімічным нефармальнай адукацыі. У прыватнасці, лічыцца, што грамадзянская адукацыя — гэта падрыхтоўка грамадзянаў для рэалізацыі іх правоў і абавязкаў з мэтай падтрымання і ўмацавання самакіравання як асновы ўдзелу ў справах канкрэтнай супольнасці, дзяржавы, нацыі. Асноўнай мэтай грамадзянскай адукацыі з'яўляецца навучанне людзей (незалежна ад узросту) каштоўнасцям і нормам жыцця ва ўмовах дэмакратыі, г. зн. таму, што мы называем грамадзянскасцю.[3]

Адпаведна дадзенай мэце выдзяляюцца тры асноўныя задачы грамадзянскай адукацыі.

- Набыццё і засваенне **ведаў** аб грамадстве і яго элементах, неабходных для дасягнення дастатковага ўзроўню сацыяльнай і грамадзянскай кампетэнтнасці;
- авалоданне **уменнямі і навыкамі** самарэалізацыі ў якасці самастойнага і значнага сацыяльнага суб'екта, а таксама арганізацыі ў грамадстве аптымальнага тыпу камунікацыі на ўсіх узроўнях;
- індывідуальнае фармаванне **каштоўнасцей і установак**, якія прынцыпова вызначаюць мадэль дэмакратычных сацыяльных паводзінаў.[4]

Трэба заўважыць, што такое разуменне задач грамадзянскай адукацыі ў значнай ступені перагукаецца з бачаннем ролі нефармальнай адукацыі, прапанаваным ЮНЕСКА, якая вызначае для яго чатыры асноўныя задачы: вучыцца, **каб ведаць, каб рабіць, каб суіснаваць і каб быць.**[5] Гэта яшчэ раз пацвярджае сінанімічнасць выкарыстання ў літаратуры і розных прафесійных супольнасцях названых вышэй тэрмінаў.

Разам з тым нельга казаць пра поўнае супадзенне значэнняў прыведзеных тэрмінаў, таму што яны характарызуюць з'яву з крыху розных пазіцый. Паняцце "грамадзянская адукацыя" перш за ўсё апелюе да адукацыйных мэтаў — выхаванне грамадзяніна, фармаванне актыўнай жыццёвай пазіцыі і г.д., у той час як "нефармальная адукацыя" ў першую чаргу звяртае ўвагу на спосаб арганізацыі навучальнага працэса, які адрозніваецца ад таго, што выкарыстоўваецца ў традыцыйнай адукацыі.

У некаторых крыніцах можна сустрэць і іншыя трактоўкі, якія у той ці іншай ступені сугучныя паняццю "нефармальная адукацыя" (напрыклад: непарыўная, дадатковая ці народная адукацыя и г.д.). Згаджаючыся з правамернасцю іх выкарыстання, мы, разам з тым, схільныя карыстацца ў гэтым артыкуле тэрмінам "нефармальная адукацыя", таму што ён у большай ступені характарызуе фенамен, які разглядаецца.

**Якім жа бачыцца чаканы вынік нефармальнай адукацыі, што рэалізуееца намаганнямі грамадскіх арганізацый?** Адукацыя дарослых — такая шматгранная сфера, што яна практычна не можа мець нейкіх выразных рамак ці абмежаванняў. Чалавек атрымлівае магчымасць развіваць сябе, вывучаючы разам з

→

іншымі эканамічныя пытанні альбо замежную мову, рэалізоўвацца, займаючыся народнымі промысламі альбо аналізам сітуацыі з правамі чалавека.

Якой бы дзейнасцю ні займаліся ўдзельнікі, з якім бы зместам ні працавалі, безумоўна, існуе ідэя, мара, што аб'ядноўвае большасць грамадскіх арганізацый, якія забяспечваюць працэс нефармальнай адукацыі дарослых у Беларусі, а менавіта: павелічэнне колькасці людзей — носьбітаў дэмакратычнага менталітэту, валодаючых неабходнымі для жыцця ў сучасным грамадстве грамадзянскімі і сацыяльнымі ўменнямі і навыкамі. Некаторыя даследчыкі, якія вывучаюць грамадскія працэсы, выдзяляюць шэраг уменняў і навыкаў, што лічацца ключавымі для фармавання дэмакратычнай мадэлі паводзінаў:

- уменне жыць у дыялогавым асяроддзі, разуменне, што такое дыялог і навошта ён патрэбны;
- развіццё здольнасцей крытычнага мыслення;
- уменне прымаць рашэнні і несці за іх адказнасць, прагназаваць іх наступствы;
- уменне вырашаць праблемы, канфлікты, рабіць абгрунтаваны выбар;
- уменне арганізоўваць грамадзянскія ініцыятывы і фармуляваць патрабаванні;
- набыццё навыка ствараць салідарныя асяроддзі;
- уменне праектаваць і прагназаваць сваю будучыню і інш.[6]

Гэты спіс можа і павінен быць значна пашыраны. Разам з тым, пасяховасць у дасягненні таго, што жадаецца, наўпрост залежыць не толькі ад распаўсюджвання ведаў і інфармацыі аб грамадскіх працэсах, але і ад таго, якім чынам забяспечваецца працэс сустрэчы і прысвойвання гэтых ведаў. Іншымі словамі, мала толькі валодаць інфармацыяй пра дэмакратыю як сістэму ўладкавання грамадства, больш важна дабіцца дэмакратычнага характару паводзінаў людзей у рэальным паўсядзённым жыцці. І спосаб арганізацыі навучання ў сістэме нефармальнай адукацыі павінен забяспечваць менавіта такі вынік.

Некаторыя даследчыкі выдзяляюць пяць розных базавых педагагічных працэсаў — навучанне, выхаванне, падрыхтоўка, адукацыя і забеспячэнне пісьменнасці. Вынікі кожнага з гэтых працэсаў прынцыпова розныя. Так, калі вынікам навучаня з'яўляюцца прысвоеныя веды, то вынікам адукацыі — спосаб мыслення, рэфлексіі, разумення і г.д.[7] Калі ў якасці пажаданага выніка нефармальнай адукацыі бачыцца чалавек-носьбіт дэмакратычнай мадэлі паводзінаў, то, хутчэй за ўсё, асноўную ўвагу варта надаць такому працэсу, як адукацыя. Пры гэтым усе іншыя працэсы не менш важныя, аднак выконваюць іншыя функцыі.

Для рэалізацыі любога з базавых педагагічных працэсаў прымяняецца пэўны набор метадаў навучання. Таму, калі мы гаворым пра падрыхтоўку чалавека да выкарыстання дэмакратычных норм і каштоўнасцей у паўсядзённым жыцці, пра актыўную сацыяльную пазіцыю, гэта азначае, што адукацыйныя метады павінны адпавядаць мэце. Іншымі словамі, актыўную асобу можна больш эфектыўна "падрыхтаваць" пры такой арганізацыі адукацыйнай дзейнасці, калі, перш за ўсё, сам чалавек прымае непасрэдны ўдзел у гэтым працэсе.

**Ітак, што ж дапамагло нефармальнай адукацыі дарослых у Беларусі дабіцца пэўнага прагрэсу на працягу адносна невялікага прамежка часу?** На гэтае пытанне цяжка адказаць адназначна. Напэўна, сваю ролю адыграў цэлы шэраг фактараў: адкрыўшыеся магчымасці паспрабаваць нешта новае ў іншай адукацыйнай прасторы, высокая цікавасць насельніцтва да пытанняў развіцця грамадства, развіццё арганізацый трэцяга сектара, прага пераменаў…

Улічваючы асаблівасці сацыяльна-палітычнага жыцця Беларусі першай паловы 90-х гадоў, можна сцвярджаць, што для значнай колькасці актыўных, творчых, не абыякавых да лёсу і будучыні краіны людзей трэці сектар стаў вельмі спрыяльнай пляцоўкай для ўласнай рэалізацыі, прасоўвання ў грамадстве сваіх ідэй і каштоўнасцей. Нядзіўна, што большасць людзей, якія прыйшлі ў грамадскі сектар у той перыяд, да гэтай пары праяўляюць у ім высокую актыўнасць, а створаныя тады арганізацыі (Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі, Рэспубліканскае моладзевае грамадскае аб'яднанне "Нэкст Стоп — Нью Лайф", Рэспубліканскі савет моладзевых і дзіцячых арганізацый "Рада", Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Аб'яднаны шлях" і многія іншыя) і сёння адыгрываюць заўважную ролю ў грамадскіх працэсах, ініцыятыва правядзення якіх належыць беларускаму трэцяму сектару.

*З нашага пункту гледжання, нефармальная адукацыя стала адным з прыярытэтаў для беларускага трэцяга сектара з 1994 г. Менавіта тады адукацыя дарослых многімі стала разглядацца як спосаб умацавання ў грамадстве дэмакратычных прынцыпаў і каштоўнасцей, а таксама шырокага распаўсюджання ведаў пра дэмакратыю.*

Улічваючы адсутнасць папярэдняга досведу падобнай дзейнасці, большасць мерапрыемстваў, што арганізоўваліся ў той час беларускімі грамадскімі аб'яднаннямі, асноўваліся, перш за ўсё, на агульным эмацыйным пад'ёме і выконвалі хутчэй інфармацыйна-асветніцкую, чым адукацыйную функцыю. Разам з тым, намаганні многіх НДА былі сканцэнтраваныя вакол стварэння розных структур нефармальнай адукацыі, здольных запоўніць існуючую нішу і задаволіць узнікшы попыт на атрыманне дадатковых ведаў, уменняў і навыкаў. Падобную задачу ў рамках розных праектаў спрабавалі рашаць такія арганізацыі, як РГА "Аб'яднаны шлях" (клуб трэнераў НДА), ГА "Фонд імя Льва Сапегі" (група трэнераў), ГА "Цэнтр сацыяльных інавацый" (курсы для дарослых), ГА "Фонд «Адкрытае грамадства»" (рух філаматаў), сумесны праект некалькіх беларускіх арганізацый — "Народны універсітэт", "Беларускі калегіум" і інш.

Вынікі гэтай працы неўзабаве сказаліся. У межах дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў за кароткі перыяд часу была падрыхтавана значная колькасць спецы-

ялістаў, якія павінны былі забяспечваць адукацыйны працэс у створаных структурах, праектах, установах сферы нефармальнай адукацыі.

*На нашу думку, вялікае значэнне ў гэтым працэсе развіцця меў прыйшоўшы і хутка атрымаўшы распаўсюджанне ў нас замежны досвед, назапашаны іншымі краінамі ў сферы нефармальнай адукацыі за некалькі дзесяцігоддзяў.* Адчуваючы вялікі дэфіцыт фінансавых і інтэлектуальных рэсурсаў, беларускія НДА апынуліся ў авангардзе развіцця міжнародных кантактаў, усталявання партнёрскіх узаемаадносінаў з аналагічнымі арганізацыямі іншых краін. За апошнія дзесяць гадоў грамадскімі аб'яднаннямі было рэалізавана мноства партнёрскіх праектаў, у тым ліку і ў сферы нефармальнай адукацыі. Праведзена вязізная колькасць семінараў, трэнінгаў, канферэнцый, круглых сталоў і г.д., шмат замежных спецыялістаў пабывала ў Беларусі і ўнесла істотны ўклад у развіццё нефармальнай адукацыі ў нашай краіне. Значная частка актывістаў і сяброў беларускіх грамадскіх аб'яднанняў удзельнічала ў разнастайных праграмах, стажыроўках і курсах, арганізаваных для іх за мяжой. Найбольшую актыўнасць у партнёрстве з нашымі НДА праявілі спецыялісты краін Еўропы — перш за ўсё Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі, Швецыі, Галандыі, а таксама шэраг арганізацый і ўстаноў ЗША.

Нядзіўна, што замежны досвед шмат у чым, калі не паслужыў асновай, то, ва ўсякім выпадку, запоўніў існаваўшыя прабелы ў беларускай нефармальнай адукацыі. Ні для кога не сакрэт, што, напрыклад, метадычны і арганізацыйна-тэхнічны складнік адукацыйнага працэсу ў значнай ступені былі запазычаныя з досведу розных краін, дзе гэтая сфера ўжо мае больш чым векавую гісторыю.

З іншага боку, хуткае знаёмства з замежным вопытам далёка не заўсёды было выкарыстана адпаведным чынам. Вельмі часта адбывалася безсэнсоўнае капіраванне таго, што было ўбачана альбо пачута, без аніякіх спробаў адаптацыі, прыстасавання яго да сучасных беларускіх умоваў. Часам прыязджаўшыя ў Беларусь спецыялісты бралі на сябе ролю місіянераў, што навучаюць "неадукаваных" беларусаў асновам "правільнага" ладу жыцця. Усё гэта ў пэўнай ступені ўплывала на эфектыўнасць выкарыстання замежнага досведу, пазбаўляла яго сэнсу, фармавала нежаданне паглыбляцца ў яго далейшае падрабязнае вывучэнне.

Такім чынам, можна сказаць, што патэнцыял працы з вопытам іншых краін да гэтага часу быў рэалізаваны часткова, што дазваляе і надалей разглядаць яго ў якасці адной з асноўных крыніц для развіцця нефармальнай адукацыі.

*Адной з важных перадумоў для развіцця нефармальнай адукацыі дарослых у Беларусі стала з'яўленне новага тыпу запыту на вынік адукацыі.* Сацыяльна-эканамічныя ўмовы, змяніўшыся, скарэктавалі патрэбы людзей у змесце і якасці адукацыі, што прывяло да з'яўлення ў многіх грамадзянаў дакладна выражанага практыка-арыентаванага падыходу. Інакш кажучы, яшчэ да пачатку навучання яго ўдзельнікі маюць ці, ва ўсякім выпадку, спрабуюць сфармаваць пэўнае ўяўленне пра тое, навошта ім гэта патрэбна, а таксама дзе і якім чынам яны могуць гэта выкарыстаць у сваёй дзейнасці. Нягледзячы на тое, што гэты ж падыход нязменна дэклараваўся і ў традыцыйнай адукацыі, яго рэальнае ўвасабленне цалкам справядліва падвяргалася сумніву. Такім чынам, нефармальная адукацыя дарослых, больш гнуткая і мабільная, чым традыцыйная сістэма адукацыі, з пэўнага моманту стала арыентавацца на зноў узнікшы адукацыйны запыт насельніцтва — набыццё і паспяховае прымяненне практычных сацыяльных, грамадзянскіх і камунікатыўных уменняў і навыкаў у грамадскай і прафесійнай дзейнасці.

На жаль, магчымасці задаволіць гэты попыт намаганнямі сучаснай нефармальнай адукацыі, якая рэалізуецца ў межах беларускага трэцяга сектара, пакуль што застаюцца даволі абмежаванымі. Грамадскія арганізацыі, працуючыя ў гэтай сферы, на дадзены момант з-за розных прычынаў не ў стане забяспечыць адпаведную колькасць і якасць адукацыйных паслугаў для шырокага кола насельніцтва. Такая сітуацыя пакідае магчымасць удзелу ў разнастайных семінарах, трэнінгах, праграмах і г.д. толькі для абмежаванай колькасці людзей, што не дазваляе казаць пра сур'ёзны ўплыў нефармальнай адукацыі на беларускае грамадства. Менавіта таму спроба "пайсці ў народ", стварыць умовы для шырокага ўдзелу насельніцтва краіны ў нефармальнай адукацыі павінна стаць адным з галоўных прыярытэтаў для адукацыйных і асветніцкіх грамадскіх арганізацый на бліжэйшы час.

*Працэс развіцця нефармальнай адукацыі пастаянна суправаджаўся і суправаджаецца падрыхтоўкай уласных педагагічных кадраў (трэнераў, лектараў, экспертаў і да т.п.) у большай ступені, чым іншыя спецыялісты, здольных эфектыўна арганізоўваць адукацыйную дзейнасць у дадзенай сферы. Гэты факт таксама можна лічыць перадумовай для развіцця нефармальнай адукацыі ў Беларусі.*

У сувязі з гэтым асобна хацелася б адзначыць часавы перыяд з 1996 па 1999 гады, калі падрыхтоўка трэнераў сферы нефармальнай адукацыі для беларускага трэцяга сектара насіла масавы характар. Гэта тлумачылася, з аднаго боку, высокім попытам на спецыялістаў падобнага роду, а з другога — пазіцыяй шэрагу спонсараў, якія лічылі падрыхтоўку новых трэнераў прыярытэтным кірункам дзейнасці.

Вядома ж, многія беларускія трэнеры, сёння актыўна працуючыя ў грамадскіх арганізацыях, у той перыяд атрымалі неацанімы досвед. Разам з тым, падобная "канвеерная" падрыхтоўка выявіла шэраг сур'ёзных праблем, якія не вырашаны да гэтай пары, а таксама прывяла да шэрагу негатыўных наступстваў. У прыватнасці, у выніку такога падыходу да падрыхтоўкі трэнераў стандарты трэнерскай дзейнасці так і не былі сфармаваныя, а многія з тых, хто прайшоў навучанне, потым вельмі хутка пакінулі грамадскія арганізацыі. Само слова "трэнер" усё часцей стала ўжывацца з некалькі іранічным падтэкстам у адносінах да прадстаўнікоў трэнерскага цэха, якія працуюць у трэцім сектары.

→

Адной з ключавых праблем, звязаных з падрыхтоўкай кадраў для нефармальнай адукацыі, аказалася адсутнасць клопату пра стварэнне сістэмы рэгулярнага павышэння кваліфікацыі. Вельмі хутка прыйшоў час, калі стала мала проста называцца трэнерам ці арганізоўваць "нейкую" адукацыю. Востра паўстала пытанне якасці адукацыйных паслугаў, што прапануюцца насельніцтву. А гэтая якасць наўпрост залежыць ад кваліфікацыі трэнераў, прадастаўляючых дадзеныя паслугі. Сёння можна з упэўненасцю казаць, што ў асяроддзі беларускіх адукацыйных грамадскіх арганізацый існуе вялікая колькасць трэнераў, выкладчыкаў, кіраўнікоў курсаў, гурткоў і да т.п., якія атрымалі няйрэнную першасную падрыхтоўку, аднак на дадзены момант адчуваюць выразную патрэбу ў павышэнні сваёй кваліфікацыі і выхадзе на якасна іншы ўзровень уласнай дзейнасці.

**Разам з тым, што было сказана вышэй, хацелася б адзначыць шэраг яшчэ не агучаных праблем, ад вырашэння якіх наўпрост залежыць будучыня нефармальнай адукацыі ў Беларусі:**

- *Непрызнанне дзяржавай каштоўнасці дзейнасці адукацыйных арганізацый трэцяга сектара, іх неінтэграванасць у агульную беларускую адукацыйную прастору.* Можна сцвярджаць, што значная колькасць адукацыйных грамадскіх арганізацый і іх установы працуюць ва ўмовах, калі іх дзейнасць хутчэй *дазваляецца* дзяржавай, чым з-за таго, што дзяржава *жадае*, каб гэтая дзейнасць абавязкова праводзілася. У гэтым сэнсе сітуацыя і існуючыя тэндэнцыі ў нашай краіне адрозніваюцца нават ад сітуацыі ў нашых суседзяў ва Украіне і Расіі, дзе дзяржаўныя структуры на розных узроўнях адкрыта дэкларуюць сваю зацікаўленасць у развіцці нефармальнай адукацыі і выніках удзелу ў ёй як мага больш шырокага кола грамадзянаў.
- *Адсутнасць развітага супрацоўніцтва паміж адукацыйнымі і асветніцкімі грамадскімі арганізацыямі і ініцыятывамі.* З-за цяжкасцей самога існавання грамадскіх арганізацый апошнія сканцэнтравалі свае намаганні на вырашэнні праблемы выжывання. Такая пазіцыя не дазваляе ўбачыць і выкарыстаць тыя магчымасці, якія прадстаўляюцца, дзякуючы наладжванню актыўнага супрацоўніцтва з іншымі адукацыйнымі арганізацыямі трэцяга сектара ў прыватнасці і ў Беларусі ўвогуле. Арганізацыі яшчэ не ў дастатковай ступені навучыліся камбінаваць свае рэсурсы, запрашаць калег да ўдзелу ў сваіх праектах, лабіяваць і абараняць свае агульныя інтарэсы і г.д.
- *Недастатковая інстытуцыялізацыя адукацыйных грамадскіх арганізацый і іх паслугаў, праблема адсутнасці прафесійнага менеджменту ў гэтай сферы.* На жаль, у беларускім трэцім сектары з-за мноства прычын амаль што не існуе прыкладаў, калі тая ці іншая арганізацыя прадстаўляе адукацыйныя паслугі шляхам развіцця асабістай адукацыйнай установы. У большасці сваёй адукацыйная дзейнасць грамадскіх арганізацый хутчэй нагадвае "лятучы галандзец": немагчыма прадказаць, дзе, калі і для каго будзе праводзіцца семінар альбо трэнінг праз тыдзень ці месяц. Арганізацыі самі вызначаюць, на каго скіраваць сваю дзейнасць і якім чынам яе арганізаваць, пакідаючы патэнцыйным удзельнікам магчымасць пагадзіцца з ужо выпрацаванай стратэгіяй. Такі падыход, а таксама непастаянны (нештодзённы) спосаб дзейнасці не дазваляюць далучыцца да нефармальнай адукацыі звычайным грамадзянам, не дае ім магчымасці выбіраць зручны для гэтага час і месца. Акрамя таго, трэці сектар не мае сёння дастатковай колькасці спецыялістаў-менеджэраў, здольных эфектыўна арганізаваць не непасрэдна саму адукацыйную дзейнасць, але працу такой адукацыйнай установы.

*Нефармальная адукацыя дарослых у Беларусі, нягледзячы на сваю пакуль непрацяглую гісторыю, ужо мае шэраг поспехаў. У трэцім сектары сфармавалася група арганізацый, стала працуючых у гэтай сферы, маючых свае пастаянныя мэтавыя групы, прапануючых свой спецыфічны змест і валодаючых падрыхтаванымі трэнерскімі кадрамі.*

*Разам з тым, узровень адукацыйных паслугаў у сферы беларускай нефармальнай адукацыі патрабуе значнага ўдасканалення, а кола пералічаных праблем — хутчэйшага вырашэння. Хочацца спадзявацца, што ўсведамленне беларускімі арганізацыямі і іх існуючымі і патэнцыйнымі партнёрамі ды саюзнікамі перспектываў развіцця сектара нефармальнай адукацыі дазволіць у бліжэйшай будучыні сумеснымі намаганнямі паспяхова справіцца з недахопамі, якія ў гэтай сферы прысутнічаюць, перашкаджаючы працаваць усё больш эфектыўна.*

■

[1] Верамейчык Г., Пашэвалава Т. Адукацыя дарослых: досвед Германіі для Беларусі. Мн., 1999 г. — С.5.
[2] Верамейчык Г., Пашэвалава Т. Адукацыя дарослых: досвед Германіі для Беларусі. Мн., 1999 г. — С.5.
[3] Бугрова И. Воспитание гражданина. // Бюлетэнь Альянса Партнёрства Каўнтэрпарт "Новы рэсурс", №2 (17), люты 2003 г. [WWW document]. URL http://cap.iatp.by — С.5.
[4] Гражданское образование: зарубежный опыт, проблемы развития. / Отв. ред. А. Михайлов, В. Дунаев. Мн.: Пропилеи, 1999 г. — С.37.
[5] Зинченко Я. Размышления о том, как нам повезло с неформальным образованием // "Содействие", №5, 2003. — С.5.
[6] Бугрова И. Воспитание гражданина. // Бюлетэнь Альянса Партнёрства Каўнтэрпарт "Новы рэсурс", №2 (17), люты 2003 г. [WWW document]. URL http://cap.iatp.by — С.6.
[7] Крупнік С. Стоп-сыгнал для грамадзянскай адукацыі // Бюлетэнь Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў, люты-сакавік 2003 г. — С.6.



# Система гражданского образования в третьем секторе Беларуси

Виктор Чернов

Утверждение эффективной и стабильной демократии невозможно без адекватных изменений в политической культуре населения. Только от осознанности выбора и активности большинства граждан зависит учет их интересов в государственных решениях, компетентность и ответственность политических элит.

Ключевую роль в осуществлении этих изменений играет гражданское образование, в том числе демократическое политическое образование. Способность граждан к просвещенному выбору, принятию рациональных политических решений формируется не столько спонтанно, сколько в процессе систематического приобретения населением гражданских знаний, компетенций, опыта.

Сегодня в Беларуси инициатором и сподвижником в распространении гражданских знаний и развитии компетенций являются преимущественно неправительственные организации (НПО), а также негосударственные вузы, независимые СМИ и демократические партии. Организации третьего сектора накопили значительный опыт гражданского образования и просвещения. Образовательные программы выходят на более широкие слои общества. Совершенствуется учебно-методическое обеспечение, растет профессионализм тренеров и преподавателей. Все более многообразными становятся и формы такого образования: семинары по различным проблемам, организуемые партиями и НПО; учебные кружки, лектории, народные университеты для широких слоев населения; школы и семинары для отдельных категорий граждан — журналистов, молодых политиков, женщин, учителей и др.

Одной из основных тенденций в развитии белорусского третьего сектора является постепенное формирование в его среде **постоянно действующей и многоступенчатой системы гражданского образования**, ориентированной на различные социальные группы (см.рис.). Такая система позволяет объединить усилия многих организаций, повысить эффективность использования ресурсов, предложить программы разного уровня сложности и разной направленности, сформировать и поддерживать собственную кадровую базу, содействовать массовой подготовке компетентных граждан и формированию демократических элит.

**Первичный уровень** предполагает в качестве учебной единицы краткосрочные семинары, кружки, лектории, клубы и др. На сегодняшний день семинар или цикл семинаров является наиболее распространенной среди белорусских НПО формой гражданского просвещения граждан. Работа с населением на первичном уровне нацелена на удовлетворение интереса к различным сферам знаний, создание дискуссионной среды, стимулирование мотивации к приобретению углубленных знаний и дополнительных навыков. На этом уровне может происходить также отбор и рекрутирование участников для второго, базового, уровня обучения.

**На базовом уровне** участники имеют возможность получить глубокие и систематизированные знания по всему спектру гражданской проблематики — в области политологии, права, истории, экономики и др. Основной учебной единицей становится не семинар, а Народный университет и/или Школа гражданского образования, которая включает в себя лекционный курс, практические занятия, консультации и итоговый контроль.

→

Рис. Система гражданского образования в рамках третьего сектора.






**Народный университет** (НУ) — это программа гражданского образования и просвещения для **широких слоев** населения без отрыва от основной работы. Она содержит **экстенсивный** курс граждановедческих дисциплин (120 и более учебных часов) продолжительностью от 3 месяцев до 1 года. Как неформальное образовательное учреждение НУ был создан Общественным научно-аналитическим центром "Белорусская перспектива" в 1997 г. в целях подготовки граждан к активному и компетентному участию в общественно-политической жизни.

Вдохновляющим историческим примером для учредителей Народного университета послужила деятельность белорусского Общества филоматов *(греч. — любителей знаний)*, созданного в 1817 г. студентами Виленского университета, в том числе такими впоследствии известными деятелями белорусской культуры, как А. Мицкевич, Я. Чачот, И. Дамейко, Т. Зан. Деятельность филоматов была нацелена на формирование системы народного просвещения, которая могла бы приблизить национальное освобождение Беларуси.

Формат работы Народного университета во многом напоминает так называемый "Летучий университет", действовавший в Польше во второй половине 70-х годов. НУ сближает с "Летучим университетом" отсутствие собственных помещений, учебных аудиторий и выездной принцип преподавания, когда каждую неделю столичные преподаватели выезжают с лекциями в самые разные районы Беларуси.

В то же время Народный университет имеет существенные особенности, отражающие специфику белорусской ситуации. Во-первых, основная цель польского "Летучего университета" заключалась в том, чтобы охватить независимым образованием в области философии, истории, экономики, литературы, полонистики и т.д. как можно большее количество демократически настроенных студентов для их последующего влияния на процесс обучения в государственных вузах, находившихся в тисках коммунистического диктата. Сверхзадача же Народного университета — не просто передача новых знаний, а создание действенной системы влияния на самые широкие слои населения, переориентация массового сознания на демократические нормы и ценности. Поэтому в НУ преобладают дисциплины граждановедческой направленности.

Во-вторых, в "Летучем университете" отсутствовали обязательные предметы и учебные программы. Каждый преподаватель самостоятельно определял содержание своей лекции — главное, чтобы это было интересно студентам. Не велся учет посещаемости, слушатели не сдавали зачетов и не получали дипломы. В этом отношении Народный университет представляет собой более формализованную образовательную программу, содержащую общеобязательные курсы и ряд специальных курсов по выбору учащихся. По завершению всей программы слушатели проходят тестирование по основным дисциплинам и получают своеобразный сертификат участия — символический диплом выпускника Народного университета. Критерием для выдачи дипломов является посещение большей части занятий и относительно успешное прохождение тестирования (1).

НУ действовал в режиме "Летучего университета" до 2002 г.: преподаватели в выходные дни регулярно выезжали из Минска в различные районы Беларуси и вели занятия по политологии, рыночной экономике, истории Беларуси, истории белорусской культуры и спецкурсам по выбору. На тот момент НУ представлял собой самый крупный образовательный проект в третьем секторе Беларуси. Ему не было равных по многообразию и целостности изучаемых дисциплин, объему учебных часов, числу одновременно охваченных учебой регионов, количеству и составу постоянных слушателей, уровню преподавательских кадров и общей результативности всей программы. Всего за время существования университета обучение прошли свыше 1500 человек в 31 городе страны.

После завершения в том или ином городе программы НУ его дипломанты учреждали региональные Общества филоматов, которые сегодня объединены в национальное Общество любителей знаний (филоматов). Сегодня некоторые региональные структуры этого Общества стремятся к осуществлению автономных образовательных проектов, включая организацию (по сокращенной или видоизмененной программе) работы собственных Народных университетов. А центральный офис Общества филоматов планирует в 2004 г. возобновить деятельность программы НУ в национальном масштабе — как минимум в 15 городах Беларуси.

В последние годы организаторы и преподаватели Народного университета были заняты проведением для филоматов специализированных семинаров и конференций, подготовкой для них учебных пособий, вспомогательной учебно-методической литературы и аналитических материалов. Издается бюллетень "Филоматы". Лучшие выпускники НУ в составе трех учебных групп (всего свыше 50 человек) имели возможность прохождения дополнительного обучения в Польше.

Сегодня о Народном университете с полной уверенностью можно говорить как об устоявшейся форме массового гражданского образования и просвещения, перспективы существования которой зависят от действия многих факторов и, прежде всего, от государственной политики в области неформального образования взрослых, развития структур гражданского общества, устойчивости финансирования образовательных программ. Создание более благоприятных рамочных условий позволит не только значительно расширить географию гражданского образования, но и укрепить сеть Общества филоматов, проводить продвинутые курсы для тех выпускников НУ, которые могли бы реализовывать автономные образовательные проекты, заниматься мультиплицированием полученных знаний, организовывать учебные кружки, клубы, лектории, семинары, народные университеты и т. д.

В отличие от НУ **Школа гражданского образования** — это программа **интенсивного** обучения с отрывом от основной работы (80-220 учебных часов длительностью до 2-3 недель) для **конкретных** адресных групп: учителей, вузовских преподавателей, журналистов, студентов, профсоюзных работников, молодых политиков, женщин, активистов политических партий и НПО и т. д.

Реализация образовательных программ в виде проведения специальных тематических Школ впервые была начата Белорусским Фондом Сороса, который в 1995-1997 гг. поддержал проведение серии недельных и двухнедельных Школ по экономике, политологии, истории и праву. Впоследствии эта практика была продолжена ОО "Фонд им. Льва Сапеги" (Школы по демократии и самоуправлению) и ОО "Фонд «Открытое общество»" (Политологическая Школа для журналистов, Школы политического образования для молодых политиков, Школы гражданского образования для учителей социальных и гуманитарных дисциплин и др.). Школа как форма обучения становится сегодня все более традиционной для белорусских образовательных НПО.

**Продвинутый уровень** рассчитан на интенсивную подготовку и переподготовку мультипликаторных групп (лекторов, тренеров, школьных учителей, преподавателей вузов, журналистов и т.п.). В учебных программах наряду с предметными знаниями большое внимание уделяется методам и методикам преподавания, педагогическим приемам. На этом же уровне слушателям предлагаются специализированные семинары и курсы, такие как Public Administration, Public Relations, менеджмент в образовании и др. Система образования может быть также дополнена прохождением стажировок в различных организациях и учреждениях.

На нынешнем этапе развития гражданского образования организациям третьего сектора необходимо сосредоточить внимание на интенсивной подготовке и переподготовке именно мультипликаторных групп, особенно тех категорий, которые имеют базовую вузовскую подготовку и функциональный доступ к широкой аудитории. Это прежде всего касается школьных учителей, преподавателей вузов, журналистов, социальных работников, врачей и т.д. Уже сегодня есть немало примеров, когда слушатели, прошедшие третий уровень обучения, работают в качестве преподавателей, тренеров, лидеров кружков или менеджеров образования на первичном и базовом уровнях. Это позволяет постоянно расширять сеть неформального гражданского образования за счет новых регионов и групп населения. В то же время продвинутый уровень обучения позволяет мультипликаторам работать не только с неангажированными категориями населения, но и с элитными группами белорусского общества.

Таким образом, вырисовывается трехступенчатая система гражданского образования, содействующая подготовке компетентных граждан, осознающих свои права, обязанности и ориентирующихся в возможностях их реализации (базовый уровень), и профессиональных мультипликаторов гражданских знаний (продвинутые курсы). Сегодня такие системы возникают в рамках некоторых региональных и национальных об- →

разовательных проектов НПО, а в перспективе они могут быть объединены в общенациональную систему гражданского образования.

Эффективность функционирования системы гражданского образования предполагает разработку коалиционных образовательных программ различной направленности, уровня сложности и степени продвинутости. Это требует объединения и координации усилий различных образовательных НПО. Одним из вариантов такого сотрудничества может быть подготовка и реализация коалиционного (регионального или национального) проекта, состоящего из пакета проектов отдельных образовательных организаций.

Организации должны иметь возможность влиять на принятие решений на всех стадиях подготовки коалиционного проекта, что позволит им эффективнее участвовать в общей работе и на практике оценить преимущества совместного развития. Поэтому общий проект готовится в диалоговом режиме. Заинтересованные НПО формируют Совет проекта, в рамках которого они совместно разрабатывают концепцию проекта, план деятельности, распределяют между собой функции и ответственность. После этого каждая организация готовит свой собственный проект, который встраивается в общую стратегию. В итоге целиком проект реализуется за счет ресурсов не отдельных НПО, а своего рода корпорации таких организаций, взаимодействующих между собой на принципах горизонтальной коалиции.

Горизонтальная модель коалиции позволяет, с одной стороны, сохранить автономию организаций, а с другой, с максимальным эффектом сконцентрировать и использовать их ресурсы и тем самым повысить устойчивость системы гражданского образования. И такая модель способна действовать как на региональном уровне, так и на национальном.

В настоящее время уже существует позитивный опыт коалиционного сотрудничества в рамках сети общественных организаций, которые занимаются гражданским образованием (АГА). В нее вошли 10 образовательных НПО, реализующих совместные проекты на принципах развития горизонтальных связей, распределенного лидерства и взаимной ответственности. Данная сеть возникла в ходе реализации белорусско-шведского проекта "Укрепление белорусских региональных неправительственных организаций", который осуществлялся в 1999-2001 гг. В рамках реализации проекта между партнерскими организациями было заключено партнерское соглашение, в котором были определены параметры сотрудничества, права и обязанности сторон. Партнеры создали Совет проекта и приняли Регламент его деятельности.

Совет проекта продемонстрировал способность развивать успешные коммуникации между 10 организациями в сфере гражданского образования и содействовать другим НПО в их образовательной деятельности, о чем, например, говорит тот факт, что в проекте приняли активное участие более 1000 человек. Проект помог укрепить десятки небольших региональных НПО, образовательных инициатив и придать им новый стимул для взаимного сотрудничества. Именно при организационно-методическом содействии членов Совета было учреждено национальное Общество любителей знаний (филоматов) и ряд региональных коалиций НПО.

В настоящее время организации АГА успешно осуществляют второй коалиционный проект, направленный на распространение в Беларуси такой нетрадиционной формы образования взрослых, как шведская модель учебного кружка. Деятельность АГА может служить прецедентом для развития в третьем секторе не только системы гражданского образования, но и моделью кооперации общественных инициатив в других сферах (2).

На наш взгляд, дальнейшее развитие третьего сектора в нашей стране будет тесно связано с коалиционными проектами и осуществлением общественными объединениями долгосрочных национальных и региональных программ в различных сферах их деятельности. Вместо конкуренции НПО за ограниченный финансовый ресурс получат широкое распространение горизонтальные связи и координация совместных действий. Это приведет к повышению уровня институциализации третьего сектора и степени его влияния на решение проблем белорусского общества.

■



## Примечания

1. **См. о Народном университете подробнее:** Валентин Голубев. Университет работает // Белорусская перспектива. Информационный бюллетень. 2001. № 4; Алексей Ходыко. В борьбе за знания и правду // Там же, Виктор Чернов. Народный университет и перспективы гражданского образования в Беларуси // Філаматы. Бюллетень Народного Университета. 1999. № 1.

2. **См. также о деятельности Ассоциации гражданского образования:** www.ace.ngo.by; Ирина Бугрова, Галина Веремейчик, Виктор Чернов. Образование взрослых как фактор развития общества: опыт и перспективы для Беларуси // Перспективы общественного развития Республики Беларусь. Материалы партнерской конференции "Беларусь и Украина — мост между расширяющимся ЕС и Россией?", 2-4 мая 2003 г. Дортмунд-Минск: 2003.

# Партнёрства дзеля адукацыі

Чацвёрты год працягваецца супрацоўніцтва беларускіх грамадскіх арганізацый, якія працуюць у сферы нефармальнай грамадзянскай адукацыі Беларусі, у рамках партнёрскай сеткі "Асацыяцыя грамадзянскай адукацыі" (АГА). Часопіс "Адукатар" — таксама "дзіця" гэтай партнёрскай сеткі. Таму мы вырашылі, што першы нумар нашага выдання ніяк не можа абысціся без расповеду пра гэтае партнёрства.

*На пытанні нашага карэспандэнта адказваюць каардынатары АГА Улад Вялічка (Грамадскае аб'яднанне "Адукацыйны цэнтар «ПОСТ»") і Тамара Мацкевіч (Грамадскае аб'яднанне "Цэнтар «Супольнасьць»").*

**— Як нарадзілася ідэя стварыць партнёрскую сетку арганізацый, што займаюцца грамадзянскай адукацыяй?**

**Улад:** Ідэя стварэння сеткі беларускіх адукацыйных арганізацый, як кажуць, вітала ў паветры ўжо ў другой палове 90-х гг. Але з-за розных прычын гэтага не адбывалася. Падставай для ўзнікнення гэтай сеткі стала паспяховае супрацоўніцтва 8 грамадскіх арганізацый Беларусі ў межах сумеснага праекта са шведскай арганізацыяй "Форум Сюд", які быў скіраваны на развіццё грамадскіх арганізацый у рэгіёнах Беларусі і рэалізоўваўся на працягу 1999-2001 гг. Узнікненне сеткі арганізацый, якія займаюцца грамадзянскай адукацыяй, стала адным з найбольш істотных і шматабяцальных вынікаў таго праекта. Мы пачалі вучыцца на самой справе супрацоўнічаць, давяраць адно аднаму, дзяліцца адказнасцю, сумесна прымаць рашэнні. Думаю, гэта стала магчымым менавіта таму, што да гэтага часу пэўныя арганізацыі саспелі для таго, каб не баяцца страціць сваю самастойнасць і незалежнасць, а наадварот — браць на сябе большую адказнасць, у тым ліку і за сваіх партнёраў.

**Тамара:** Асноўным багаццем Беларусі ёсць адукаваныя разумныя людзі, якім толькі трэба дапамагчы знайсці напрамак да свайго дабрабыту, да сваёй грамадзянскай самарэалізацыі. Было б дзіўна, каб нікому ў галаву не прыйшла ідэя стварыць структуру, якая б гэтым занялася.

У межах сваёй дзейнасці мы кантактавалі і супрацоўнічалі з рознымі арганізацыямі, якія займаюцца грамадзянскай адукацыяй. Паколькі беларускі грамадскі сектар даволі малады, існуюць арганізацыі з розным досведам і ўзроўнем прафесіяналізму. Паступова паміж арганізацыямі, якія ўвайшлі ў сетку, склаўся ўзаемны давер, заснаваны на гарантыі якасці таго, што яны робяць. Потым, на этапе выпрацоўкі сумесных правілаў працы, каштоўнасцяў, прынцыпаў, на аснове якіх мы аб'ядноўваемся, стала зразумела, што мы не маем супярэчнасцяў і разам можам зрабіць больш.

**— Што ўдалося здзейсніць у рамках АГА?**

**Улад:** Нягледзячы на тое, што АГА як сетка існуе з 2000 года, яна не можа пахваліцца вялікай колькасцю праведзеных мерапрыемстваў. Вядома, быў сумесны праект з "Форум Сюд", пад час якога было праведзена шмат семінараў і трэнінгаў для рэгіянальных НДА. Потым гэты праект перарос у новы, з новым партнёрам — Шведскай Асацыяцыяй Адукацыі Дарослых (SV), дзе галоўная ўвага надаецца развіццю дастаткова цікавай адукацыйнай формы — навучальных гурткоў, такіх знаёмых нам па савецкім часе, але разам з тым з зусім новым сучасным зместам і ідэяй самаадукацыі людзей. Не сумняваюся, што зараз новым прыярытэтам АГА стане часопіс "Адукатар", які можа і павінен існаваць пры ўдзеле вялікай колькасці беларускіх адукатараў, у тым ліку і з грамадскага сектара. Але ўсё ж такі асноўным дасягненнем я лічу развіццё самаго партнёрства адукацыйных грамадскіх арганізацый. Сёння ў нас ёсць рэальныя механізмы ўзаемадзеяння, выпрацаваны прынцыпы прыняцця рашэнняў, жаданне і ўменне працаваць разам, свае метадычныя і змястоўныя здабыткі, растучыя амбіцыі павелічэння колькасці сябраў сеткі, а таксама колькасці і якасці іх адукацыйных мерапрыемстваў і г.д. Усяго гэтага дасягнуць было вельмі нялёгка, таму што ў грамадскім сектары пакуль што не існуе ўстойлівых традыцый працаваць разам, а не толькі дэклараваць супрацоўніцтва.

→

| Беларускі варыянт | Чэшскі варыянт |
|---|---|
| Выхаванне свабоднай, творчай і маральнай асобы, якая здольна ўлічваць новыя сацыяльна-палітычныя і эканамічныя запыты[3]; | Развіццё чалавечай індывідуальнасці[4]; |
| захаванне і памнажэнне інтэлектуальнай уласнасці і культурна-гістарычных каштоўнасцяў беларускага народа і іншых нацыянальных супольнасцяў краіны[5]; | перадача гістарычна напрацаванай культуры грамадства, захаванне і развіццё нацыянальнай, моўнай і культурнай ідэнтычнасці, ахова культурнай спадчыны[6]; |
| выхаванне паважнага стаўлення да палітычнага плюралізму і дэмакратыі, да правоў чалавека, да іншых краін і народаў, іх культурнай самабытнасці[7]; | падтрымка дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці, узмацненне з'яднанасці грамадства[8]; |
| інтэграцыя ў сусветную адукацыйную прастору, арыентацыя на сусветны ўзровень адукацыі[9];<br><br>і г. д. | выхаванне партнёрства, супрацоўніцтва і салідарнасці ў еўрапейскім і сусветным глабалізаваным грамадстве[10]; |

Адпаведна гэтым мэтам, беларускія канцэпцыі развіцця навучання і выхавання 90-х гг. (а іх было шмат — афіцыйных і неафіцыйных), вызначаюць фундаментальныя перадумовы развіцця (рэформы) нацыянальнай сістэмы адукацыі: адраджэнне нацыянальна-культурнай асновы адукацыі; арыентацыю на выхаванне свабоднай асобы; узмацненне фізічнага і псіхічнага здароўя чалавека і нацыі; дэцэнтралізацыю, дэмакратызацыю і гуманізацыю адукацыі; экалагічную накіраванасць навучання і выхавання; цеснае ўзаемадзеянне адукацыі з навукай, вытворчасцю і сацыяльна-духоўнай сферай; рэгіяналізацыю адукацыі; інтэграцыю нацыянальнай сістэмы адукацыі ў сусветную адукацыйную прастору.

Гэтыя мэты і перадумовы задаюць наступныя прынцыпы мадэрнізацыі нацыянальнай сістэмы адукацыі, якія атрымалі прававое замацаванне ў Законе "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь": прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцяў, нацыянальна-культурная аснова, навуковасць, арыентацыя на сусветны ўзровень адукацыі, гуманізм, сувязь з грамадскай практыкай, экалагічная накіраванасць, пераемнасць і непарыўнасць, адзінства навучання, духоўнага і фізічнага выхавання, дэмакратызм, свецкі характар, абавязковасць базавай адукацыі. Замацаваныя Законам, гэтыя прынцыпы з'яўляюцца прынцыпамі беларускай адукацыйнай палітыкі і, адпаведна, адукацыйнай рэформы. Аднак з прычыны высокай ступені абстрактнасці дадзеных прынцыпаў, нават спецыяльны аналіз ходу нашай рэформы не дазваляе больш-менш дакладна вызначыць ступень іх рэалізацыі ў адукацыйнай практыцы на сённяшні дзень.

Чэшскія тэарэтыкі адукацыі паставіліся да вызначэння прынцыпаў адукацыйнай палітыкі больш канкрэтна. Пры гэтым яны дакладна вызначыліся з арыенцірамі: гэта — Еўрапейскі Саюз, Савет Еўропы. Так, у "Белай кнізе" мы чытаем: "…з'яўляецца новая канцэпцыя непарыўнага навучання для ўсіх, яе паступовая рэалізацыя становіцца мэтай як міжнародных урадавых арганізацый, так і ўсіх развітых краін. Прынялі яе за сваю мэту і мы. Рэалізацыя гэтай новай канцэпцыі азначае шчыльнае з'яднанне існуючай школьнай сістэмы з сектарам далейшай адукацыі, з палітыкай занятасці і сацыяльнай палітыкай, у мэтах максімальнай інтэграцыі асобы ў грамадства"[11]. Рэалізацыя канцэпцыі непарыўнай адукацыі для ўсіх канцэнтруецца на некалькіх галоўных задачах:

- стварэнне неабходнай базы для навучання праз усё жыццё, што дасягаецца павелічэннем ролі дашкольнага выхавання, павышэннем якасці і мадэрнізацыяй базавай адукацыі, якая мусіць быць як мага больш скіраванай на індывідуальнае і дыферынцаванае на-

[3] Латыш М.И. Образование на рубеже веков. 2-е изд., доп. Мн.: НИО, 2000. — С. 157, 179.
[4] Národni program rozvoje vzdělávání v České republice: Bilá kniha. Praha, 2001. — S. 14.
[5] Латыш М.И. Образование на рубеже веков. 2-е изд., доп. Мн.: НИО, 2000. — С. 180.
[6] Národni program rozvoje vzdělávání v České republice: Bilá kniha. Praha, 2001. — S. 14.
[7] Латыш М.И. Образование на рубеже веков. 2-е изд., доп. Мн.: НИО, 2000. — С. 179.
[8] Národni program rozvoje vzdělávání v České republice: Bilá kniha. Praha, 2001. — S. 15.
[9] Латыш М.И. Образование на рубеже веков. 2-е изд., доп. Мн.: НИО, 2000. — С. 172, 177.
[10] Národni program rozvoje vzdělávání v České republice: Bilá kniha. Praha, 2001. — S. 15.
[11] Národni program rozvoje vzdělávání v České republice: Bilá kniha. Praha, 2001. — S. 16-17.

вучанне, пашырэнне праграмы сярэдняй адукацыі (каб нават не вельмі паспяховыя вучні не адлічваліся з сярэдняй школы без іх жадання) і, нарэшце, пабудовай эфектыўных падтрымліваючых сістэм адукацыі;

- стварэнне трывалых функцыянальных сувязяў паміж навучаннем і працай, якія дазволяць зрабіць больш дынамічнай сістэму агульнай адукацыі і прафесійнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі;
- перадзел задач і адказнасці паміж усімі суб'ектамі-партнёрамі на мясцовым, рэгіянальным і агульнадзяржаўным узроўнях у рамках адукацыйнай сістэмы і за яе межамі;
- стварэнне стымулаў дзеля інвеставання ў чалавечы капітал, каб знайшліся дадатковыя фінансавыя сродкі для розных відаў адукацыі і развіцця праграм працаўладкавання.

Другі акцэнт адукацыйнай рэформы ў Чэхіі — дэмакратызацыя — таксама дакладна акрэслены. Так, толькі раскрыццю зместу паняцця "дэмакратызацыя адукацыі" прысвечаны цэлы раздзел "Белай кнігі" — 2.3. Прынцыпы дэмакратычнай адукацыйнай палітыкі[12].

У цэлым, галоўныя стратэгічныя накірункі Чэшскай адукацыйнай рэформы — наступныя: задавальненне ўсіх адукацыйных патрэб дзяцей, моладзі і дарослых шляхам забеспячэння даступнасці адукацыі ўсіх узроўняў для максімальнага развіцця здольнасцяў асобы на працягу ўсяго жыцця; дасягненне большай якасці і функцыянальнасці адукацыі праз стварэнне новых адукацыйных праграм, якія будуць адпавядаць патрабаванням грамадства ведаў і інфармацыі, экалагічнага развіцця, працаўладкаванасці, патрэбам удзелу ў жыцці дэмакратычнага грамадства ў інтэграванай Еўропе; развіццё сістэмы ацэнкі дзейнасці адукацыйных інстытуцый на ўсіх узроўнях кіравання і рэгулявання; развіццё аўтаноміі інавацыйнага патэнцыялу і абсталяванасці школ, іх адкрытасці да грамадства і сувязі з сацыяльным асяроддзем; узмацненне сацыяльна-прафесійнага становішча педагагічных і акадэмічных супрацоўнікаў; увядзенне ў грамадскую практыку дэцэнтралізаванага рэгулявання ў адукацыйнай сферы з дапамогай дзяржаўных органаў і органаў самакіравання.

На падставе гэтых агульнатэарэтычных палажэнняў і прынцыпаў, такім чынам, і ў Беларусі, і ў Чэхіі вядзецца сёння адукацыйная рэформа. Гэта значыць, што грамадства і той, і другой краіны прыкладае пэўныя намаганні для рэалізацыі пазначаных стратэгічных мэтаў. Аднак адукацыйная палітыка — гэта не проста вызначэнне адукацыйных прыярытэтаў, якія запатрабаваны сучасным грамадствам. Адукацыйная палітыка грунтуецца таксама на рэальнай палітыцы дзяржавы. Таму ў Чэшскай Рэспубліцы, скіраванай ў Еўропу, адукацыя, зарыентаваная ў сваім развіцці на агульнаеўрапейскія праграмы і тэхналогіі, знаходзіць падтрымку ў дзяржаўнай еўропаарыентаванай палітыцы. Тым самым дакладна вызначаюцца канкрэтныя прыярытэты рэфармавання адукацыі, прынамсі, адукацыі базавай (з якой нас паспелі пазнаёміць пад час візіту):

- па змесце — Чэшская рэформа грунтуецца на распаўсюджанай у Еўропе педагагічнай тэорыі кампетэнцый, вучэння для жыцця (у прыватнасці, Брытанскі Нацыянальны курыкулум, уведзены ў гэтай краіне ў 1988 годзе, шмат у чым грунтуецца на гэтым падыходзе, асабліва гэты падыход да базавай і сярэдняй адукацыі ўласцівы Паўночнай Ірландыі);
- па арганізацыі рэфармавання — Чэшская Рэспубліка праводзіць так званую рамкавую рэформу, якая прадугледжвае сумесную дзейнасць дзяржавы (якая задае рамкі рэформы, напрыклад, вучэбныя стандарты) і школы, якая, атрымлівае адносную аўтаномію, ствараючы ўласныя праграмы навучання і шукаючы сродкі і падтрымку ў мясцовай супольнасці; тым самым, ужо ў ходзе рэфармавання, ажыццяўляецца дэмакратызацыя і дэцэнтралізацыя адукацыі, да ўдзелу ў рэфармаванні прыцягваецца супольнасць, фінансава самастойная школа становіцца культурным цэнтрам супольнасці, а ўнутры школы развіваюцца адносіны партнёрства;
- па суб'екце рэфармацыйнай дзейнасці — рамкавая канцэпцыя рэформы прадугледжвае ўдзел у адукацыйнай рэформе не толькі Міністэрства адукацыі, моладзі і фізічнай культуры (якое вызначае рамкавыя арыенціры) і школы, але і іншых суб'ектаў — мясцовых супольнасцяў, недзяржаўных адукацыйных арганізацый і інш.

Як жа на практыцы здзяйсняецца рэформа Чэшскай адукацыі? Што ўжо зроблена? Ці знаходзяць намаганні навукоўцаў і палітыкаў падтрымку настаўнікаў і непасрэдных адукацыйных кіраўнікоў? Адказы на гэтыя пытанні атрымаліся неадназначнымі. Пабудуем іх у хоаналагічный паслядоўнасці, спалучыўшы, так бы мовіць, абстрактнае з канкрэтным — логіку чэшскай адукацыйнай рэформы і гісторыю нашага азнаямлення з ёю.

Пераход ад тэорыі да практыкі — ад чытанння ў цягніку тэарэтычных палажэнняў "Белай кнігі" да азнаямлення з практыкай чэшскай адукацыйнай рэформы — пачаўся для нас адразу ж па прыездзе ў Прагу. Адбылося гэта, як ні дзіўна, непасрэдна ў Міністэрстве адукацыі, моладзі і фізічнага выхавання Чэшскай Рэспублікі. Прафесар Ян Тупы, як ужо адзначалася, намеснік дырэктара Даследчага інстытута педагогікі і адзін з аўтараў "Белай кнігі", распавёўшы нам пра тэарэтычныя і палітычныя дыскусіі 90-х гадоў адносна чэшскіх адукацыйных прыярытэтаў, з вялікім задавальненнем паведаміў наступнае.

Па ягоным перакананні, нягледзячы на працяг тэарэтычных і палітычных дыскусій і па сённяшні дзень, тым не менш Чэшская адукацыйная рэформа ідзе, і адбываецца гэта ў адпаведнасці з асноўнымі палажэн-



[12] Národni program rozvoje vzdělávání v České republice: Bílá kniha. Praha, 2001. —S. 17-18.



нямі “Белай кнігі”, пад кіраўніцтвам Міністэрства і пры пастаянным кантролі і навуковай экспертызе Даследчага інстытута педагогікі. Так, на яго думку, ужо сёння можна сказаць, што з рэформай дашкольнага выхавання Чэшская Рэспубліка справілася, і бягучы момант характарызуецца рашучымі рэфармацыйнымі дзеяннямі ў базавай школе. Пакуль што, праўда, гэтыя дзеянні вядуцца ў 55 эксперыментальных школах.

Пры гэтым, як мы ўжо адзначылі, галоўны арыенцір у развіцці і перабудове зместу базавай адукацыі — гэта сапраўды практычная накіраванасць навучання і выхавання асобы: у базавай школе трэба даваць дзіцяці веды не аб жыцці, а для жыцця! Гэта значыць, што змест базавай адукацыі навукоўцы прапануюць перабудаваць на аснове распаўсюджанай у Еўропе тэорыі кампетэнцый ці функцыянальнай пісьменнасці (апошні тэрмін больш ужывальны ў нашай адукацыйнай рэчаіснасці). У праграме перабудовы зместу адукацыі, паведаміў нам спадар Тупы, закладзеныя 9 асноўных (ключавых) кампетэнцый, на фармаванне якіх павінна быць скіравана навучанне па ўсіх школьных прадметах: грамадзянская, камп'ютэрная, камунікатыўная, моўная, працоўная, агульнакультурная (уключаючы міжкультурную), экалагічная, ахова здароўя. Зразумела, што ў праграмах закладзены не толькі кампетэнцыі, але і інфармацыя, веды, што кладуцца ў аснову фармавання гэтых кампетэнцый, прычым апошнія не зводзяцца да першых. Стандарты, вызначаныя дзяржавай, Міністэрствам адукацыі, моладзі і фізічнага выхавання, уяўляюць сабой мінімальны аб'ём ведаў і вучэбных гадзін, якія кожная школа павінна прадаставіць кожнаму вучню. Маючы аднак на ўвазе, што галоўная мэта базавай адукацыі — гэта фармаванне ў кожнага вучня ключавых для жыцця грамадзяніна сучаснага грамадства 9-ці кампетэнцый.

У гэтым асноўная цяжкасць рэформы і заключаецца — растлумачыць настаўнікам розніцу паміж стандартамі інфармацыі (ведаў) і кампетэнцыямі: моўная кампетэнцыя не зводзіцца да ведання граматычных правілаў, а адказнае стаўленне да працы (працоўная кампетэнцыя) адрозніваецца ад сумы пачатковых ведаў і ўменняў у той ці іншай прафесійнай галіне ці хатняй гаспадарцы. Кожнаму настаўніку трэба зразумець, што кампетэнцыя — гэта інтэгральная (у адносінах да зместу вучэбных прадметаў) якасць, якая фармуецца ў вучня на розных уроках: напрыклад, уменне берагчы сваё здароўе — на ўроках біялогіі, фізікі, хіміі, фізічнай культуры і іншых. У прынцыпе, аўтары рэформы не адмаўляюцца ад спробаў стварэння інтэгральных прадметаў — пад тую ці іншую кампетэнцыю. Напрыклад, для развіцця экалагічнай кампетэнцыі ствараецца інтэгральны вучэбны прадмет “Чалавек і прырода” на базе фізікі, хіміі, біялогіі. Настаўнікі да гэтага, зразумела, яшчэ не гатовыя, але кожная школа мае права ствараць сваю ўласную вучэбную праграму, улічваючы магчымасці свайго педагагічнага калектыву, і, дарэчы, развіваць гэты калектыў з дапамогай разнастайных праграм перападрыхтоўкі настаўнікаў, якія прапануюцца шматлікімі адукацыйнымі арганізацыямі (што для нас асабліва цікава — як правіла, недзяржаўнымі!).

Тут мы пераходзім да другога найважнейшага моманту чэшскай рэформы базавай адукацыі — арганізацыйнага. Галоўнае тут — канцэпцыя “рамкавай рэформы”: дзяржава (Міністэрства адукацыі, моладзі і фізічнага выхавання) задае рамку — стандарты, а як дасягнуць гэтых стандартаў — гэта ўжо справа самой школы. Менавіта школа распрацоўвае сваю вучэбную праграму, вызначае метады, шукае дадатковыя шляхі і сродкі дасягнення канчатковай мэты — фармавання ў кожнага вучня 9-ці ключавых кампетэнцый. Такім чынам, рэалізуюцца прынцыпы дэмакратызацыі, дэцэнтралізацыі, школьнай аўтаноміі; школа становіцца самастойнай фінансава, звязанай з мясцовай супольнасцю, а ў ідэале — культурным цэнтрам гэтай супольнасці. Усе гэтыя працэсы, у сваю чаргу, вядуць да дэмакратызацыі ўнутрышкольнага жыцця, усталяванню адносін партнёрства паміж настаўнікамі і вучнямі.

Як адзначалася намі раней, на сённяшні дзень, па словах прафесара Тупага, рэформа базавай адукацыі знаходзіцца на стадыі эксперыменту. Такі рэфармацыйны эксперымент вядзецца зараз у 55 базавых школах: усе яны зрабілі самаацэнку сваёй дзейнасці; вырашылі, што ў ёй трэба выпраўляць; наступны крок — стварэнне ўласных вучэбных праграм, мэтай якіх павінна стаць развіццё ў вучняў ключавых кампетэнцый. Тут шмат праблем: кадравых, звязаных з сумеснай творчасцю педагагічных калектываў, недастатковасць, а то і адсутнасць метадычнай літаратуры. Але канцэпцыя Даследчага інстытута педагогікі ўвайшла ў праект новай рэдакцыі Закона аб адукацыі, і таму, як запэўніў нас прафесар Ян Тупы, ёсць надзея на тое, што праз некалькі гадоў у базавай адукацыі Чэхіі адбудуцца змены — яна стане школай для жыцця, а не аб жыцці. Тым больш, што для гэтага распрацаваны фінансавы механізм і прадугледжаны змены ў сістэме кіравання[13].

На жаль, спадар Тупы, нічога канкрэтнага не адказаў на наша пытанне аб тым, якім чынам новы змест базавай адукацыі для жыцця будзе стасавацца з задачамі сярэдняй і вышэйшай школы, якія прадугледжваюць большую тэарэтычную падрыхтоўку вучняў. А гэта вельмі важнае для нас пытанне. Рэалізацыя, напрыклад, у масавай дзяржаўнай сярэдняй адукацыі Вялікабрытаніі канцэпцыі “школы для жыцця”, з інтэграванымі прадметамі, дае вельмі нямнога шанцаў яе выпускнікам для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Справай бацькоў становіцца пошук добрай сярэдняй школы, дзе іх дзіця зможа атрымаць патрэбныя веды для паступлення ва ўнівесітэт. Пагодзімся, што ў беларускай адукацыйнай рэчаіснасці гэтая праблема набывала год ад году ўсё большую актуальнасць: “прорва” паміж узроўнем ведаў выпускнікоў сярэдніх школ і патрабаваннямі школы вышэйшай па-

[13] Národni program rozvoje vzdělávání v České republice: Bilá kniha. Praha, 2001. — S. 20-29.

шыралася, даючы прастору для развіцця “чорнага” адукацыйнага рынку — рэпетытарства. Сёння мы спадзяемся, што ўвядзенне ў Рэспубліцы Беларусь цэнтралізаванага тэставання, вынікі якога будуць адзінай падставай для паступлення ў вузы, паспрыяе вырашэнню гэтай праблемы. Хаця трэба адзначыць, што і ў Вялікабрытаніі, і ў Чэхіі экзамены на атрыманне “матуры” (атэстата аб сярэдняй адукацыі) даўно цэнтралізаваныя, а праблема пераемнасці паміж узроўнямі адукацыі не здымаецца.

І яшчэ адна акалічнасць, якая прымусіла нас быць пільнымі ў сваіх ацэнках паспяховасці чэшскай рэформы базавай школы. Справа ў тым, што наша наступная сустрэча адбылася ў фінансавым дэпартаменце Міністэрства адукацыі, моладзі і фізічнага выхавання. Распавядаючы пра змены і асаблівасці фінансавання базавай адукацыі, загадчык дэпартаменту спадар Фінке, проста не зразумеў адно з нашых пытанняў. Яно ж тычылася фінансавання рэформы. “Якой рэформы?..” — быў адказ. Стала зразумелым, што рэформа робіцца за кошт, так бы мовіць, унутраных “рэзерваў” чэшскіх настаўнікаў, як і ў Беларусі. Адразу ўспомнілася пра паведамленне аб страйку чэшскага настаўніцтва, які адбыўся за пару тыдняў да нашага візіту ў Чэхію. Галоўнай тэмай страйку, як шчыра паведамілі нам чэшскія калегі, была тэма “Людзьмі звацца!” ці, больш сучаснымі словамі, тэма прафесійнай годнасці і сацыяльнага статусу настаўніка. Заўважым пры гэтым, што сацыяльны статус чэшскага настаўніка грунтуецца на значна мацнейшым фінансавым падмурку ў параўнанні са статусам настаўніка беларускага: малады спецыяліст-педагог атрымлівае 13 тыс. крон, што ў пераліку на “ўмоўныя адзінкі” складае каля 500 USD, зарплата ж вопытнага спецыяліста дасягае 25 тысяч крон за месяц. Між тым, як і ў амаль што ўсіх развітых краінах, чэшскі настаўнік застаецца бяднейшым за прадстаўнікоў іншых сацыяльных груп і прафесій, “а ў спісе пяцідзесяці выбраных прафесіяў, апублікаваных у друку, заробкі настаўнікаў прыпадаюць на 49 месца”, як іранічна заўважыў вельмі папулярны ў Чэхіі пісьменнік[14].

Але вернемся да адметнасцяў чэшскай рэформы базавай адукацыі. У адпаведнасці з умовамі эксперыменту і палажэннямі “Белай кнігі”, для выканання сваёй вучэбнай праграмы школа атрымлівае магчымасць супрацоўнічаць з недзяржаўнымі адукацыйнымі арганізацыямі. І гэта яшчэ адзін важны арганізацыйны момант: паўнапраўным суб'ектам рэформы становяцца (ужо сталі!) не толькі школа і дзяржаўныя органы кіравання — ад Міністэрства да рэгіянальных цэнтраў, але і мясцовыя супольнасці, а таксама недзяржаўныя адукацыйныя арганізацыі. Роля недзяржаўных арганізацый у дзяржаўнай рэформе школьнай адукацыі — прадмет, які заслугоўвае асобнай гаворкі і ўвагі.

Так сталася, што пасля Міністэрства наступная наша сустрэча адбылася ў недзяржаўнай адукацыйнай арганізацыі AISIS[15]. Гэта адна са шматлікіх недзяржаўных адукацыйных арганізацый (аднак, адна са старэйшых, буйнейшых, прызнаных настаўніцтвам і дзяржавай, паважаных), якая ставіць на мэце спрыянне змяненню атмасферы ў чэшскай школе праз работу з настаўнікамі. Дакладней жа, сваю місію AISIS бачыць “у падтрымцы змен і адносін у школьнай адукацыі і развіцці сучасных еўрапейскіх адукацыйных тэндэнцый”, якія ў найбольшай ступені адпавядаюць рэалізацыі канцэпцыі “школы для жыцця” (з праспекта AISIS).

Маладыя, апантаныя сваёй працай хлопцы — менеджэр, магістр педагогікі Мілан Коцік[16] і выканаўчы дырэктар, эканаміст Іва Юпа[17], прафесіяналы кожны ў сваёй справе, — даводзілі нам, што сёння патрэбныя (краіне, грамадству?) людзі не з энцыклапедычнымі ведамі, а здольныя да прыняцця рашэнняў. Так, напрыклад, з дапамогай адной з распрацаваных у Еўропе праграм, яны вучаць настаўнікаў, як развіваць у вучняў самапазнанне, навыкі камунікацыі, каапераціі. Гэта адна з праграм — “Dokážu to?” (“Змагу?”). А такіх праграм у іх шмат, у прыватнасці, у сваім праспекце яны прэзентуюць 10, сярод якіх прыцягваюць увагу назвы “Скарб унутры”, “Уключанасць”, “Школа для ўсіх”, “Тварам да сваёй гісторыі” і інш. Настаўнікі ідуць да іх, і працуе AISIS, заўважым, толькі з працуючымі ўжо педагогамі, з будучымі — студэнтамі педагагічных факультэтаў — працаваць, па словах кіраўнікоў арганізацыі, неэфектыўна: вельмі ж нямногія з іх ідуць працаваць па спецыяльнасці. Знаёмая нам сітуацыя, ці не праўда?

Дарэчы, офіс арганізацыі AISIS размяшчаецца зусім не ў сталіцы, а ў невялічкім г. Кладна. Там жа нам паказалі і мясцовую базавую школу, дзе AISIS працуе ўжо трэці год — Základni škola Norská 2633. Дырэктарка школы спадарыня Даніэла пад пільным вокам магістра Мілана Коціка распавяла нам пра свае намаганні зрабіць школу дэмакратычнай і адкрытай грамадству, зразумела, з дапамогай AISISa. Яна запэўніла нас, што настаўніцкі калектыў актыўна абмяркоўвае канцэпцыю рамкавай рэформы Міністэрства і збіраецца прыстасаваць яе да сябе: самаацэнка ўжо адбылася (нам была прад'яўлена адпаведная дакументацыя), засталося распрацаваць накірункі самаўдасканалення — кадраў і, наогул, атмасферы ў школе, і скласці сваю ўласную вучэбную праграму. З дапамогай AISISa яны спадзяюцца паспяхова справіцца з гэтымі задачамі і пачаць развіваць у сваіх вучняў тыя 9 ключавых кампетэнцый, якія вызначыла Міністэрства. Складанасць, аднак, у тым, што не ўсе настаўнікі разумеюць важнасць пастаўленых задач. Дырэктар за гэта нікога не звальняе, але тыя, хто зусім не хоча працаваць у вызначаным кірунку, самі сыходзяць. Карацей, за дэмакратыч-



[14] Вівэг Міхал. Выхаванне дзяўчат у Чэхіі // ARCHE. 2003. № 4. — С. 127.
[15] AISIS Kladno, Gorkégo 499, 272 01, CR; www.aisis.cz
[16] Mgr. Milan Kotik, e-mail: milan.kotik@aisis.cz
[17] Ivo Jupa, e-mail: ivo.jupa@aisis.cz



ымі намаганнямі дырэктаркі чэшскай правінцыйнай школы, за актыўнай дзейнасцю недзяржаўнай арганізацыі па змяненні школьнай атмасферы ў кірунку гуманізацыі і партнёрства — слабым ценем паўстала наша агульнае сацыялістычнае мінулае…

Яшчэ адна дэталь, вартая ўвагі, высветлілася ў гутарцы са спадарыняй Даніэлай. Аказваецца, škola Norská спрабуе сама зарабляць грошы — гэта таксама прыкмета рэфармацыйнай дзейнасці. Заробкі ажыццяўляюцца, у прыватнасці, шляхам здачы ў арэнду прыватнай школе памяшканняў, спробаў школьнай сталовай накарміць мясцовае насельніцтва і інш. Што ж, можа гэта і ёсць першы крок да адкрытасці школы грамадству, павышэння яе ролі ў супольнасці, у рэшце рэшт — да фінансавай самастойнасці (на жаль, заробленыя сродкі можна скарыстоўваць толькі на матэрыяльнае забеспячэнне, а на стымуляванне настаўніцкай працы — нельга). Тут, дарэчы, успомнілася наша роспачнае рэагаванне на прапанову беларускай дзяржавы вучэбным установам зарабляць грошы. Здаецца, роспач, а часам абурэнне, не прайшлі і сёння. Дык можа тут ёсць над чым падумаць? Толькі не для таго, каб любымі сродкамі выканаць загад і адрапартаваць, а каб сапраўды зрабіць першыя крокі адкрытасці і самастойнасці, калі гэта магчыма.

Такія вось думкі і пытанні ўзніклі ў правінцыйнай шэрагавай школе чэшскага горада Кладна, якая робіць свае першыя крокі ў працэсе рэформы. З цяжкасцю, але ідзе па шляху дэмакратызацыі, а, як вядома, "шлях адолее той, хто ідзе"[18].

Наступны дзень візіту — і новыя сустрэчы. Сам наш фундатар — міжнародная недзяржаўная арганізацыя "Чалавек у нядолі"[19] — таксама, як высветлілася, займаецца адукацыйнаю дзейнасцю. Нам была прадстаўлена адна з іх адукацыйных праграм пад назвай "Варыянты" ("Varianty")[20]. Гэта праграма міжкультурнай адукацыі, яе мэтавая група — таксама настаўнікі. Непасрэдна мэта праграмы — перадача настаўніку міжкультурных кампетэнцый, для таго каб ён мог ажыццяўляць міжкультурнае выхаванне сваіх вучняў — прадстаўнікоў розных культур. Курсы розных узроўняў, падрыхтоўка падручнікаў (мы змаглі пабачыць іх на свае вочы і нават знайшлі там старонкі, прысвечаныя асаблівасцям менталітэту беларуса), удзел у законатворчай дзейнасці — вось асноўныя накірункі праграмы, з якімі пазнаёміў нас яе кіраўнік — магістр антрапалогіі Томас Гірт[21]. Фінансуецца праграма цалкам Саветам Еўропы.

Спадар інжынер Уладзіслаў Вік[22], кіраўнік яшчэ адной недзяржаўнай адукацыйнай арганізацыі "Новая школа"[23], што займаецца павышэннем сацыяльнай актыўнасці школ, распавёў нам пра ўзаемаадносіны Міністэрства адукацыі, моладзі і турызма з недзяржаўнымі арганізацыямі. Дарэчы, пытанне стаўлення дзяржавы да недзяржаўных арганізацый узнікла невыпадкова: пад час нашых візітаў у чэшскія адукацыйныя інстытуцыі з радзімы прыйшла сумная навіна аб вынясенні другога папярэджання грамадскаму аб'яднанню "Адукацыйны цэнтар «Пост»", адной з найбольш дзейных нашых недзяржаўных арганізацый і даволі ўжо вядомай беларускім настаўнікам.

Як высветлілася, у Чэхіі некалі таксама былі такія ж праблемы — аж да той пары, пакуль Міністэрства не зразумела, што недзяржаўныя арганізацыі прыносяць вялікую карысць (дзяржаве, краіне, адукацыі, самому Міністэрству, у рэшце рэшт!), і не ўзяло іх пад свой пільны, але добразычлівы кантроль. Зараз з грамадскімі аб'яднаннямі і іх адукацыйнымі праграмамі ўсё больш-менш проста: праходзь экспертызу Міністэрства і працуй. Заўважым, аднак, што экспертыза — гэта не такая ўжо і лёгкая працэдура. Па-першае, Міністэрства прад'яўляе шэраг патрабаванняў да арганізатараў праграм: прафесіяналізм, фінансавае забеспячэнне, узаемадзеянне з дзяржаўнымі рэгіянальнымі адукацыйнымі цэнтрамі і г.д. Па-другое, гэтая працэдура вызначана строгімі правіламі, праводзіцца незалежнымі экспертамі і займае пэўны час (бывае, і некалькі месяцаў!). Аднак, у адрозненні ад нашай сітуацыі, патрабаванні Міністэрства і правілы здзяйснення экспертызы строга вызначаны і выконваюцца абодвума бакамі.

Дзякуючы сваёй мабільнасці недзяржаўныя арганізацыі хутчэй за дзяржаўныя структуры ўлоўліваюць, так бы мовіць, адукацыйную еўрапейскую кан'юнктуру і прыярытэты Савету Еўропы ў галіне адукацыі, і часам проста выратоўваюць Міністэрства, "закрываючы" тыя накірункі адукацыйнай рэформы, да якіх у Міністэрства "не даходзяць рукі". Акрамя таго, з Еўропы на развіццё адукацыі прыцягваюцца дадатковыя фінансавыя сродкі — гэта таксама на карысць Чэшскай Рэспублікі.

[18] Старажытнарымская прыказка.
[19] Člověk v tisni, společnost při ČT; www.clovekvtisni.cz
[20] Varianty, www.varianty.cz
[21] Mgr. Tomáš Hirt, e-mail: tomas.hirt@pinf.cz
[22] Ing. Vladislav Vik, e-mail: novaskola@novaskola.org
[23] Nová škola Praha, Na Poříči 30, Prague 1, 112 86; www.novaskola.org

Знаёмства яшчэ з адной школай — сталічнай Základni škola Táborská 421/45 — уразіла ўсіх членаў нашай дэлегацыі. Уявіце:

- ніякага знешняга шыку, але ўсё прыстасавана для таго, каб дзіця і падлетак пачувалі сябе тут, як у сваім доме;
- энергічны (так і хочацца сказаць — малады, хоць напэўна добра за 40 ужо ёсць) дырэктар, які подбегам на працягу 2 гадзін водзіць нас па сваёй школе, дзе кожны клас непадобны на іншы;
- пад шкляным дахам перабудаванага гарышча так цікава сустракаць Новы год, разглядаючы зоркі (толькі загадчык гаспадаркі вельмі хвалюецца, у адрозненні ад спакойнага на гэты конт дырэктара, калі ўсе восем старэйшых класаў застаюцца ў школе ў навагоднюю ноч);
- у бібліятэцы на пакрытай дываном падлозе ляжаць падушачкі — раптам каму-небудзь захочацца пачытаць, лежачы (?);
- нягледзячы на заканчэнне заняткаў, малююць у майстэрні пад шкляным дахам свае карціны юныя мастакі, спяваюць у суседняй зале юныя спевакі, гуляюць у футбол на адрамантаванай з прымяненнем найноўшых тэхналогій пляцоўцы юныя фізкультурнікі;
- на прыступках пад шкляным дахам проста сядзяць юнакі і дзяўчаты, кідаючы свайму дырэктару і нашай дэлегацыі, што прабягаюць каля іх, кароткае “Прывітанне!”…

Карацей, у гэтай школе нам давялося ўбачыць, так бы мовіць, саму рэформу, без ніякіх слоў пра яе. Толькі з вялікай цяжкасцю выцягнулі мы некалькі ветлівых фраз пра стаўленне да рэформаў у дырэктара гэтай школы, вельмі словаахвотлівага ў сваіх расповядах пра дзяцей, настаўнікаў, пра ўдалыя здзяйсненні і новыя ідэі. Дарэчы, спадар дырэктар, які вымушаны ў сучаснай Празе займацца ўсімі школьнымі і каляшкольнымі справамі (педагогікай, эканомікай, кадрамі, сувязямі з грамадскасцю, стасункамі са спонсарамі і г.д.) і, як падалося, з задавальненнем гэтым займаецца, па сваёй першапачатковай адукацыі — не педагог, а інжынер. На дзвярах яго кабінета, дзе акрамя “наварочанага” кампутара няма больш ніякіх прыкмет уладнасці, так і напісана: “Дырэктар школы (дарэчы, па-чэшску гэта будзе «Ředitel školy» — «радзецель»? «родитель»?) — інжынер Віт Беран”[24]. Падумалася, што такія школы і такія дырэктары ёсць і ў нашай Беларусі, але, у любым выпадку, у любой краіне свету — гэта не масавая з'ява, і, на жаль, напэўна ніколі масавай не будзе, ні пры якой, нават самай дасканалай, рэформе. Аднак гэта ўжо пытанні з шэрагу фундаментальных, якія выходзяць далёка за межы тэмы гэтага артыкула: педагогіка — гэта навука ці мастацтва? Што такое педагагічны талент? Ці можа чалавек быць таленавітым у ва ўсім? І г. д.

Таму, вяртаючыся да тэмы адукацыйных рэформ у Чэхіі і Беларусі, зазначым, што адметнымі рысамі чэшскай адукацыйна-рэфармацыйнай рэчаіснасці ў параўнанні з беларускай з'яўляюцца:

- безумоўная накіраванасць у еўрапейскую адукацыйную прастору пры поўным супадзенні з еўрапаарыентаванай агульнадзяржаўнай палітыкай;
- імкненне, пакуль што на ўзроўні эксперыменту, рэальна перабудаваць змест базавай адукацыі на аснове еўрапейскай педагагічнай тэорыі кампетэнцый;
- дэмакратычная рамкавая рэформа;
- значная роля недзяржаўных адукацыйных арганізацый ў рэфармацыйнай дзейнасці.

■





[24] Ing. Vit Beran, Základni škola Táborská, Táborská 45, Praha 4; www.zstaborska.cz



# Тыдзень адукацыі на працягу ўсяго жыцця –

## пашырэнне межаў Еўропы

Ілеана Боэру, Крысціяна Улад

**Ілеана Боэру** — прафесар Народнага універсітэта "Іаана І.Далеса" (Бухарэст, Румынія), адна з ініцыятараў стварэння Нацыянальнай асацыяцыі народных універсітэтаў. Каардынатар 1-га і 4-га Фестываляў тыдня непарыўнай адукацыі (2000, 2003 гг.) Румынскага праекта Інстытута міжнароднага супрацоўніцтва Нямецкай асацыяцыі адукацыі дарослых (IIZ/DVV Project Romania).



**Крысціяна Улад** — магістр культурнай антрапалогіі, каардынатар еўрапейскага праекта, з'яўляецца нацыянальным і рэгіянальным каардынатарам мерапрыемстваў у рамках Румынскага праекта Інстытута міжнароднага супрацоўніцтва Нямецкай асацыяцыі адукацыі дарослых (IIZ/DVV Project Romania). Аўтар артыкулаў па непарыўнай адукацыі і блізкай тэматыцы.

Кожную восень, на пачатку лістапада, румыны рыхтуюцца да святкавання тыдня адукацыі на працягу ўсяго жыцця (Lifelong Learning Week — **Festivalul Sanselor Tale**). Гэта той самы выпадак, калі суб'екты адукацыі дарослых і прафесійнай адукацыі маюць магчымасць даведацца аб непасрэдных патрэбах сваіх кліентаў і пазіцыянаваць сябе на рынку, у межах якога яны прапануюць свае паслугі.

У тых, хто шукае месца працы ці жадае зрабіць кар'еру, ёсць магчымасць павысіць узровень ведаў і атрымаць новую інфармацыю па прапановах у сферы нефармальнай адукацыі.

У 2003 годзе Тыдзень адукацыі на працягу ўсяго жыцця праходзіў пад вельмі выразным лозунгам: адукацыя дарослых — гэта не толькі нацыянальная палітыка па паляпшэнні эканамічнага становішча, але і магчымасць зрабіць асабістую і прафесійную кар'еру.

Правядзенне тыдня адукацыі на працягу ўсяго жыцця стварае магчымасць для пабудовы супрацоўніцтва мясцовых і нацыянальных дзяржаўных і недзяржаўных адукацыйных арганізацый. Міністэрства адукацыі, даследаванняў і моладзі, Міністэрства культуры і веравызнання, Нацыянальны савет прафесійнай адукацыі дарослых адкрыта супрацоўнічаюць з прыватнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі, якія прапануюць паслугі па адукацыі дарослых, і сумесна распрацоўваюць розныя праграмы і прапановы ў сферы прафесійнай адукацыі.

У прыведзенай ніжэй табліцы прадстаўлена сціплая справаздача па ацэнцы ўдзелу ў праграмах адукацыі дарослых у рамках Тыдня адукацыя на працягу ўсяго жыцця ў 2000-2002 гадах:

| Год | Колькасць удзельнікаў | Колькасць арганізацый, якія прапануюць паслугі ў сферы адукацыі дарослых | Ахоп тэрыторыі |
|---|---|---|---|
| 2000 | 300 000 | 115 | 65 населеных пунктаў |
| 2001 | 500 000 | 195 | 35 раёнаў |
| 2002 | 750 000 | 215 | 37 раёнаў |

У 2003 годзе пад час Тыдня на нацыянальным узроўні ўдзельнічалі больш за 200 арганізацый, якія прапануюць паслугі ў сферы адукацыі дарослых і прафесійнай адукацыі, з прыцягненнем прынамсі мільёна наведвальнікаў рознага ўзросту — ад юнакоў да пажылых людзей.

Майстэрні, прэзентацыі, лекцыі, дні адчыненых дзвярэй, перформансы, выставы і дэманстрацыі былі адрасаваныя маладым выпускнікам, якія шукаюць месца працы ці жадаюць зрабіць кар'еру, людзям з неспрыяльным сацыяльным ці эканамічным становішчам, інвалідам, прадстаўнікам нацыянальных меншасцей, бежанцам, беспрацоўным, жанчынам, людзям з нізкім адукацыйным узроўнем, а таксама пажылым людзям, якія жадаюць падзяліцца сваім жыццёвым і прафесійным досведам.

Тыдзень адукацыі на працягу ўсяго жыцця — гэта дэцэнтралізаваная ўсенацыянальная падзея, якая патрабуе зладжанай арганізацыі. Нацыянальная асацыяцыя рэгіянальных цэнтраў адукацыі дарослых у супрацоўніцтве з Румынскім праектам Інстытута міжнароднага супрацоўніцтва Нямецкай асацыяцыі адукацыі дарослых (IIZ/DVV Project Romania) і Нацыянальнай асацыяцыяй народных універсітэтаў склалі нацыянальны план каардынацыі, які рэалізуецца на месцах Рэгіянальнымі цэнтрамі адукацыі дарослых і іншымі мясцовымі і рэгіянальнымі дзеючымі асобамі са сферы адукацыі дарослых.

Асаблівая ўвага надавалася супрацоўніцтву са сродкамі масавай інфармацыі. Мясцовыя газеты і тэлеканалы асвятлялі дзейнасць у межах Тыдня, арганізоўвалі інтэрв'ю і ток-шоу з удзелам экспертаў у адукацыі дарослых, прадстаўлялі вынікі майстэрняў, уцягвалі адказных за прыняцце рашэнняў людзей і спонсараў у дзейнасць, звязаную з непарыўнай адукацыяй, і надавалі асаблівую ўвагу важнасці адукацыі дарослых як ключа да паляпшэння эканамічнага становішча і ўмоў жыцця кожнага чалавека на ўзроўні ўсёй Еўропы.

Тыдзень адукацыі на працягу ўсяго жыцця ў Румыніі — гэта свята навучання ў розных месцах і ўмовах. Дзіцячыя садкі, пачатковыя і сярэднія школы, універсітэты, прыватныя адукацыйныя і трэнінгавыя цэнтры, дзяржаўныя і недзяржаўныя адукацыйныя арганізацыі, музеі, бібліятэкі ў сельскай мясцовасці і гарадах, дамы культуры, народныя універсітэты, тэатры, кінатэатры, адукацыйныя і культурныя аддзелы ў адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінках, прыватныя адукацыйныя кампаніі, цэнтры непарыўнай адукацыі ў памяшканнях камерцыйных і прамысловых прадпрыемстваў, парках, іншых нетрадыцыйных месцах для навучання — усе яны былі далучаныя да працэсу прасоўвання і развіцця дзейнасці ў сферы адукацыі дарослых.

У Бухарэсце, сталіцы Румыніі, ужо стала традыцыйным арганізоўваць Кірмаш прапаноў па далейшай адукацыі. Арганізацыі, якія прапаноўваюць паслугі ў гэтай сферы, прадстаўляюць свае праграмы, інфармацыйныя рэсурсы, прадукцыю (падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, слоўнікі, курсы, дыдактычныя фільмы і кампакт-дыскі). Майстэрні, круглыя сталы, праслухванне музыкі, выставы, фальклорныя прадстаўленні, мастацкія і фотавыставы — усё гэта складае звычайны поўны спектр дзеянняў у межах Тыдня адукацыі на працягу ўсяго жыцця.

Адно з найбольш важных пытанняў, якое тычыцца адукацыі дарослых, заключался ва ўсталяванні ўзгодненай заканадаўчай структуры, улічваючай інстытуцыйныя магчымасці рэалістычнай метадалогіі, сістэму акрэдытацыі кваліфікацыі і кампетэнцыі.

Менавіта па гэтай прычыне першыя майстэрні і дэбаты былі прысвечаны заканадаўчым аспектам адукацыі дарослых (у 2001 годзе — "Заканадаўства і яго рэалізацыя ў сферы адукацыі дарослых у Румыніі", у 2002 годзе — "Укараненне апошніх законаў па прафесійнай адукацыі дарослых і іх метадалагічныя працэдуры", "Важнасць партнёрства ў адукацыйных партнёрскіх праектах — нацыянальны і міжнародны падыходы").

У 2002 годзе пад час Тыдня адукацыі на працягу ўсяго жыцця асноўнымі тэмамі былі:

- Гендэрныя пытанні і веды грамадства;
- Сацыяльнае ўключэнне праз праграмы "другога шанца" для выключаных катэгорый насельніцтва;
- Маладыя людзі з нізкім адукацыйным узроўнем і тыя, хто кінуў вучобу ў школе;
- Пажылыя людзі;
- Прафесійная кампетэнтнасць на нацыянальным і еўрапейскім узроўнях у кантэксце Еўрапейскай інтэграцыі і змянення рынку працы.

Тыдзень адукацыі на працягу ўсяго жыцця запомніўся людзям з усёй краіны сваёй цікавай, незвычайнай дзейнасцю і добрай практыкай, якія прадстаўлялі розныя магчымасці і ўмовы навучання: прэзентацыі даследаванняў культуры і адукацыі дарослых, кніг, лекцый, публікацый па адукацыі дарослых; укараненне прапановаў курсаў далейшай і прафесійнай адукацыі; дні адчыненых дзярэй, дэбаты, семінары, майстэрні, прамацыйныя і эксперыментальныя трэнінгавыя курсы для дарослых; кірмашы магчымасцей; кампаніі супраць наркотыкаў на дыскатэках; дзейнасць па сацыяльным уключэнні для насельніцтва Румыніі, бежанцаў, эмігрантаў; праграмы па авалоданні асноўнымі навыкамі і мастацкія выставы для правапарушальнікаў; міжкультурныя і замежныя праграмы; інтэрв'ю на вуліцах; прадстаўленне новых трэнінгавых праграм для настаўнікаў, бацькоў і вучняў.

У 2003 годзе ў межах чацвёртага Тыдня адукацыі на працягу ўсяго жыцця ў Бухарэсце прайшоў нацыянальны семінар "Ажыццяўленне штодзённай адукацыі праз адукацыю дарослых" з удзелам практыкаў адукацыі дарослых, прадстаўнікоў універсітэтаў, мясцовай улады і асобаў, адказных за прыняцце рашэнняў у галіне адукацыі і занятасці, прыватных рэалізатараў адукацыі дарослых, прадстаўнікоў розных дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый сталіцы і іншых найбольш важных рэгіянальных цэнтраў з Клужа, Джурджу, Тыргу-Мурэш і інш. Для знаёмства з замежным досведам Рэгіянальны цэнтр адукацыі дарослых у Джурджу запрасіў гасцей з Югаславіі, Македоніі, Балгарыі прыняць удзел у сваіх семінарах і арганізаваць некалькі сумесных мерапрыемстваў.

Пад час рэгіянальнага Фестывалю адукацыі на працягу ўсяго жыцця, які праходзіў у Скоп'е ў 2003 годзе, на першы план высоўвалася пытанне аб неабходнасці ўзмацнення рэгіянальнага супрацоўніцтва ў сферы адукацыі дарослых як ключавога моманту ў эканамічным і сацыяльным аднаўленні ў рэгіёне. Гэтая мэта можа быць дасягнута толькі праз удасканаленне сістэмы адукацыі і навучання (гл. http://www.inebis.org и http://www.llw5.org).

Румынскі праект Інстытута міжнароднага супрацоўніцтва Нямецкай асацыяцыі адукацыі дарослых (IIZ/DVV Project Romania), які актыўна ўцягнуты ў прасоўванне дзейнасці ў сферы адукацыі дарослых на лакальным і нацыянальным узроўнях, з'яўляецца галоўным ініцыятарам правядзення Тыдня адукацыі на працягу ўсяго жыцця ў Румыніі. Румынская дэлегацыя складалася з некалькіх важных дзеячаў сферы адукацыі дарослых: прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, даследаванняў і моладзі, недзяржаўных арганізацый, якія прапануюць паслугі па адукацыі дарослых, дамоў культуры і народных універсітэтаў, практыкі і тэарэтыкі. Ініцыятыва правядзення Рэгіянальнага фестываля дасягае сваіх асноўных мэтаў у развіцці ўсведамлення прадстаўнікамі міністэрстваў адукацыі і на вышэйшым узроўні прыняцця рашэнняў неабходнасці навучання на працягу ўсяго жыцця, а таксама паляпшэння супрацоўніцтва і адэкватнага разумення розных культур, якія належаць да Паўднёва-Усходняй Еўропы.

# Стратэгія актыўнага навучання –




## стратэгія грамадзянскай адукацыі

**Алена Карпіевіч,**
ГА “Адукацыйны цэнтар «ПОСТ»”



*(Некалькі роздумаў пра кнігу “Обучаем иначе. Стратегия активного обучения”.
Григальчик Е.К., Губаревич Д.И., Губаревич И.И., Петрусев С.В. Мн.: “БИП-С”, 2003. 182 с.)*

На працягу доўгага часу метады актыўнага навучання вельмі актыўна выкарыстоўваюцца ў адукацыйнай практыцы грамадскіх арганізацый. Ужо складана ўявіць у трэцім сектары семінар, трэнінг альбо іншую адукацыйную праграму, арганізаваную спосабам толькі чытання лекцый і прадастаўлення інфармацыі. Аднак, часам эфектыўнасць гэтых праграм выклікае справядлівы сумніў. І вось ужо некаторыя эксперты высоўваюць тэзіс пра тое, што сур'ёзную адукацыю такім чынам арганізаваць складана. У гэтым сэнсе вельмі сімптаматычна гучыць пазіцыя, выказаная Святланай Навумавай у інтэрв'ю, што было змешчана ў бюлетэне “Новы рэсурс” (2002, № 9).

“Тыя, хто займаецца асветай, лёгка ўспрымаюць сучасныя методыкі навучання, але пры гэтым у патрэбнай ступені не валодаюць змястоўнай базай. Методыка адпрацаваная, але аналізу няма ніякага.

Тыповы семінар. Трэнер прыходзіць і звяртаецца з пытаннем да аўдыторыі: што такое дэмакратыя? Людзі пачынаюць гаварыць, што яны думаюць на гэты конт. Вядома, што колькі людзей, столькі і меркаванняў. Мы атрымліваем 20 меркаванняў, запісваем іх і потым гаворым: ну, вось і ўсё, мы — *атрымалі!* Людзі прадстаўляюць свае параекты, і на гэтым ставіцца кропка. Але ж галоўнае — гэта аналіз зробленага. А часцяком для аналізу не хапае кваліфікацыі. Крыўдна, што ў выніку людзі лёгка ўспрымаюць шкарлупіну грамадзянскай адукацыі, а змест выпадае з-пад увагі. Слова “трэнер” — сімптаматычнае. Мы гаворым “трэнер”, а не “настаўнік”, не “выкладчык”, таму што трэнер — гэта той, хто ведае методыкі, але не заўсёды з'яўляецца дастаткова адукаваным у гэтай сферы”.

Можна пагадзіцца з думкай, што адной з асноўных праблем у сферы арганізацыі адукацыйнай дзейнасці ў трэцім сектары з'яўляецца недастатковая кампетэнтнасць у самом змесце грамадзянскай адукацыі. Неабходнасць прысутнасці прадметнай кампетэнтнасці трэнера і выкладчыка грамадзянскай адукацыі не выклікае сумніву. Хаця, вядома ж, “змястоўная база” грамадзянскай адукацыі (і экспертнасць трэнера ў ёй) павінна стаць падставай для асобнага абмеркавання. Тэндэнцыя запакоўваць традыцыйныя юрыдычныя, сацыяльна-філасофскія, паліталагічныя і іншыя, няхай нават самыя сучасныя веды, якая назіраецца апошні час, выклікае шмат пытанняў.

Аднак варта прызнаць, што сёння становіцца відавочным і адзначаецца многімі даследчыкамі і педагогамі-практыкамі, што для паспяховага вырашэння актуальных адукацыйных задач у сферы грамадзянскай адукацыі важным з'яўляецца не толькі прадметная кампетэнтнасць трэнера ці выкладчыка. Сярод шырокага набора прафесійных уменняў актуальнасць набывае іх **метадычная кампетэнтнасць**. І ў дадзеным выпадку — гэта не проста “веданне методык”. Гэта здольнасць кіраваць вучэбным працэсам, гэта здольнасць выбіраць і прымяняць адпаведны зместу і мэтавай групе спектр метадаў. Арганізоўваючы дзейнасць тых, хто навучаецца, дапамагаючы ім рухацца самастойна і адказна ў атрыманні сваёй адукацыі, набываць веды і авалодваць уменнямі, педагогі становяцца “дызайнерамі” метадаў вучэння і вучэбнага асяроддзя, выконваючых сервісную функцыю ў адносінах да працэсу навучання ўдзельнікаў семінара альбо слухачоў курсаў.

Для набыцця кампетэнтнасці ў дадзенай сферы таксама неабходна спецыяльная праца па павышэнні кваліфікацыі педагогаў. Тут значную ролю маюць не толькі сучасныя курсы, семінары, канферэнцыі, якія сёння актыўна арганізоўваюцца рознымі недзяржаўнымі арганізацыямі, але і метадычныя дапаможнікі, што дапамагаюць педагогам-практыкам не толькі знаёміцца з ідэямі, але і знаходзіць канкрэтныя распрацоўкі па сучасных падыходах у арганізацыі адукацыйнага працэсу. Прыкладам такога дапаможніка, што вырашае дадзеныя задачы, можа з'яўляцца вучэбна-метадычны дапаможнік “Обучаем иначе. Стратегия активного обучения” (Григальчик Е.К., Губаревич Д.И., Губаревич И.И., Петрусев С.В.), які нядаўна выйшаў у свет. У кнізе адлюстраваны

вынікі шматгадовай працы сябраў сацыяльна-педагагічнага грамадскага аб'яднання "Чазенія".

Варта адзначыць, што гэта ўжо другое выданне дадзенай кнігі. Першае, што з'явілася ў 2001 годзе і мела зусім невялікі тыраж, аказалася надзвычай запатрабаваным педагагічнай супольнасцю ў Мінску і рэгіёнах Беларусі. Прапанаваныя аўтарскім калектывам метадычныя ідэі выклікалі не толькі інтарэс, але і жаданне рэалізаваць іх у сваёй педагагічнай дзейнасці, як у настаўнікаў школ, так і ў людзей, рэалізуючых праграмы ў сферы нефармальнай адукацыі.

Можна заўважыць, што другое выданне, у параўнанні з першым, некалькі змянілася: з'явіліся новыя главы, змянілася назва, апісаны новыя метады. Яно абгрунтавана рэкамендавана розным групам педагогаў: ад настаўнікаў школ, выкладчыкаў ВНУ да педагогаў сферы дадатковай нефармальнай адукацыі.

Аналізуючы змест метадычнага дапаможніка, трэба сказаць, што вельмі перспектыўным сёння для педагогаў, праводзячых праграмы грамадзянскай адукацыі ў грамадскіх арганізацыях, з'яўляецца сам накірунак, пра які вядуць гаворку аўтары — **стратэгія актыўнага навучання**.

Хаця, трэба адзначыць, што накірунак, які прапануецца, пакуль не мае строгіх навукова абгрунтаваных тэрміналагічных вызначэнняў. У розных працах уводзяцца розныя вызначэнні і трактоўкі — "актыўнае навучанне", "інтэрактыўнае навучанне", "актыўныя метады навучання", "стратэгія актыўнага навучання", "тэхналогіі актыўнага навучання". Гэтыя трактоўкі не з'яўляюцца сінанімічнымі і нясуць у сабе розныя акцэнты. Хаця ў агульным выглядзе, гэта ўсё тое, што супрацьпастаўляецца традыцыйнаму навучанню. У кнізе "Обучаем иначе..." прысутнічаюць спробы абгрунтаваць уводзімае паняцце — стратэгія актыўнага навучання. Аднак па ходу выкладу сустракаюцца і яго падмены. Таксама ўнутры прапануемага накірунка — стратэгія актыўнага навучання — пакуль не прысутнічаюць прывычныя для педагагічнай тэорыі адрозненні "метада" і "формы", выдзяленні тыпалогій розных метадаў.

Такая сітуацыя на сённяшні дзень з'яўляецца цалкам зразумелай і натуральнай. Строгае вызначэнне паняцця можа з'яўляцца наступным крокам у даследаванні праблематыкі педагагічных інавацый, пра якія ідзе гаворка. Пакуль жа важна, як і робяць аўтары, **рэалізаваць і апісаць канкрэтныя прыклады рэалізацыі такой адукацыі, у якой забяспечваецца актыўнасць тых, хто навучаецца, у адукацыйным працэсе на працягу ўсяго часу вучобы, змяняецца спосаб яго працы з ведамі, прапануецца спосаб камунікацыі, у якой няма аднаго носьбіта інфармацыі, а ёсць раўнапраўныя, парытэтныя ўдзельнікі — трэнер і ўдзельнікі, настаўнік і вучні, выкладчык і студэнты**. Гэтую задачу паспяхова вырашаюць у сваёй працы аўтары метадычнага дапаможніка.

Карысным для прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, рэалізуючых праграмы грамадзянскай адукацыі, бачацца, перш за ўсё, наступныя главы: "Выкарыстанне дыскусіі на занятках", "Індывідуальная і групавая праца на занятках", "Ролевая гульня ў стратэгіі актыўнага навучання". Менавіта гэтыя групы метадаў маюць агромны патэнцыял у сферы нефармальнай грамадзянскай адукацыі. У дадзеных главах чытач знойдзе не толькі пэўныя меркаванні тэарэтычнага характару, але таксама практыка-арыентаванае апісанне шэрагу канкрэтных метадаў. Гэта, на наш погляд, з'яўляецца пэўным мосцікам па пераводу зместу кнігі ў сваю практычную дзейнасць.

Асобую каштоўнасць кнізе надае непасрэднае апісанне метадаў. Як паказваюць даследаванні і практыка, вычляненне і дакладнае апісанне канкрэтных алгарытмаў арганізацыі вучэбнай дзейнасці з'яўляецца не простай справай, але вельмі важнай для педагогаў-практыкаў. Для апісання метада аўтарамі распрацавана ўдалая структура, у якую ўключаны: адукацыйныя задачы; рэкамендацыі па падрыхтоўцы і правядзенні; пералік неабходных матэрыялаў, а таксама, што асабліва важна, — фіксацыя найбольш важных і праблемных момантаў пры правядзенні метада і магчымых варыянтаў яго відазмянення.

Апошняе можа дапамагчы педагогу-практыку заняць актыўную творчую пазіцыю ў адносінах да апісанага, ставіцца да прапанаванага метада не толькі як да рэцэпту, што трэба дакладна выканаць. Бо аўтары самі відазмяняюць метады (большасць з іх не з'яўляецца ў строгім сэнсе аўтарскімі распрацоўкамі), эксперыментуюць з імі, а значыць, запрашаюць да такога працэсу і іншых.

Аналіз апісаных у выданні метадаў дазваляе сцвярджаць, што пералік, які прапануецца аўтарамі, адрозніваецца разнастайнасцю вырашаемых адукацыйных задач. Прычым многія метады ("Пусты стул", "1х2х4х8", "Пяць па пяць") — адначасова скіраваны як на набыццё ведаў, так і на развіццё сацыяльнай кампетэнтнасці тых, хто навучаецца (уменне рабіць выбар, самастойна прымаць рашэнне, адстойваць сваю пазіцыю, слухаць і г.д.). Менавіта такія метады адпавядаюць сучаснаму разуменню адукацыі, якая трактуецца не як шматведанне, а як развітасць здольнасцяў сістэмнага характару.

Аўтарскія інтэрпрэтацыі метадаў "Вядомая лекцыя", "Лекцыя з працэдурай паўз", метад "Складанне і правядзенне лекцыі з дапамогай навучэнцаў" могуць уяўляць інтарэс для педагогаў, якія шукаюць спосабы аптымізацыі дадзенай традыцыйнай, але ў апошні час выклікаючай сваёй нізкай эфектыўнасцю шмат пытанняў, формы арганізацыі адукацыйнай дзейнасці.

Абгрунтоўваючы эфектыўнасць і выніковасць прапануемай стратэгіі актыўнага навучання, калектыў аўтараў прыводзіць пераканаўчыя пацвярджэнні. Варта звярнуць увагу на дарэчнасць выкарыстання і карэктнасць спасылак, што робяць аўтары по ходу выкладу, а таксама на разнастайнасць крыніц, на якія яны спасылаюцца. Сваю пазіцыю аўтары дапаможніка таксама абгрунтоўваюць пры дапамозе спасылак на анкеты і лісты настаўнікаў, якія ўжо пазнаёміліся з аўтарскімі распрацоўкамі і паспяхова іх выкарыстоўваюць у сваёй адукацыйнай практыцы.

Завяршаючы невялікі агляд, адзначым, што вучэбна-метадычны дапаможнік, які прапануецца, дапамагае нашай супольнасці сферы грамядзянскай адукацыі перавесці папулярныя размовы пра актыўныя метады, узнікаючыя перыядычна ў трэцім сектары, на якасна іншы ўзровень — узровень прафесійнага абмеркавання.

